«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (214), чэрвень 2024 года

Літаратурная
Беларусь

Выпуск № 6 (214) (чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

Змест



**ФОРУМ: «СТАГОДДЗЕ БЫКАВА»** — развагі пра творцу Генадзя БУРАЎКІНА, Сяргея ЗАКОННІКАВА, Дануты БІЧЭЛЬ, Уладзіміра НЯКЛЯЕВА, Юрася ЗАЛОСКІ ..... с. 1
**ПРЫСВЯЧЭННІ:** паэтычны вянок Васілю БЫКАВУ ад беларускіх і замежных творцаў ..... с. 2
**АРХІЎ:** гутарка 60-гадовай даўніны «Літаратура павінна праявіць крыштальную праўдзівасць і шчырасць» Васіля БЫКАВА з Анатолем ВЯРЦІНСКІМ ..... с. 3
**ФОРУМ:** Васіль БЫКАЎ: «Пісьменнік мае справу толькі з Богам» (стэнаграма сустрэчы ў 1991 годзе) ..... с. 4, 5
**ЭПІСТАЛЯРЫЙ:** «Дажыць да вясны…» — лісты Васіля БЫКАВА да роднай сястры Валянціны БЫКАВАЙ (публікуюцца ўпершыню) ..... с. 6, 7
**УСПАМІН:** згадкі Валянціны БЫКАВАЙ пра лёс сям'і і брата «Васілёва дарога» ..... с. 8, 9
**ДЫЯЛОГ:** «Мы яшчэ не наеліся чорнага хлеба праўды» — фрагмент гутаркі з Васілём БЫКАВЫМ Юрася ЗАЛОСКІ пра ісціну, гістарычную памяць, вайну, мараль і свабоду ..... с. 10
**ГІСТОРЫІ:** артыкул Андрэя ЦУНСКАГА «Хто я такі, каб судзіць?» пра актуальнасць Рабінзона Круза і яго стваральніка Даніэля ДЭФО ..... с. 11
**СВЕТ:** навіны і цікавосткі літаратурнага замежжа ..... с. 12

**ФОРУМ**

# Стагоддзе Быкава

***Гэты нумар прысвечаны 100-гадоваму юбілею Народнага пісьменніка Беларусі, творцы і грамадскага дзеяча Васіля БЫКАВА (19 чэрвеня 1924 г.—22 чэрвеня 2003 г.).***

***Асноўную частку выдання склалі аўтарскія прамовы, гутаркі, ліставанне, прысвечаныя празаіку вершы, фотаальбом, а таксама ўспаміны і згадкі пра Васіля Уладзіміравіча, якія высвечваюць асноўныя вехі яго жыцця і творчасці, яго змагарнай працы і чалавечага подзвігу.***




Фота nlb.by

Графіці ў гонар Васіля Быкава, створанае камандай Street skills

Генадзь БУРАЎКІН (1936—2014):

«Для мяне Васіль Быкаў па-ранейшаму жывы... Ён не аддаляецца, а наадварот, набліжаецца, пазбаўляючыся выпадковай бытавой драбязы і ўсё больш набываючы мудрасці і мужнасці, ідавочна робячыся ўзорам і настаўнікам.

Што ж галоўнае ў жыцці і творчасці Быкава? Перш за ўсё — ягоны яркі талент і самаахвярнае служэнне праўдзе. Менавіта гэтыя яго якасці вымушалі ў савецкі час самых высокіх чыноўнікаў аддаваць яму, нязручнаму і не любімаму, афіцыйныя знакі дзяржаўнай увагі...

І яшчэ адну істотную рысу характару і паводзінаў Васіля Быкава хачу абавязкова адзначыць: надзвычайную чалавечую годнасць. Ён падкрэслена спакойна і цярпліва прымаў і незаслужаную аглабельную крытыку сваіх твораў, і бляск шчодрых узнагарод, якімі крамлёўскія кіраўнікі ў апошнія гады свайго валадарання нібы спрабавалі адкупіцца перад ім за шматгадовую несправядлівасць і адкрыты перaслед. Ох, як не хапае быкаўскай годнасці многім сённяшнім літаратарам і палітыкам!

І ўжо зусім асабістае. Васіль быў рэдкім па шчырасці і вернасці сябрам. І ў хвіліны радасці, і ў хвіліны адчаю ён ніколі не забываў патэлефанаваць ці напісаць, і спагада і дабрыня ягоны былі такімі натуральнымі і простымі, што самі сабою супакойвалі душу...

Так што Васіль Быкаў для мяне — жывы, неабходны, абавязковы і для гісторыі роднай Беларусі, і для яе цяперашняга часу, і для будучыні. І трэба часцей успамінаць яго, азірацца на яго, вучыцца ў яго».

Сяргей ЗАКОННІКАЎ:

«Васіль Быкаў падкрэсліваў, што лёс кожнай кнігі залежыць ад таго, колькі ў ёй закладзена ад праўды народнага жыцця. Яго творчасць мае выразна беларускія нацыянальныя карані, аблічча, душу, і разам з тым сваёй духоўнай напоўненасцю, маральным максімалізмам і актыўным гуманізмам яна ўліваецца ў плынь агульначалавечай літаратуры і культуры...

Галоўным застаюцца ключавыя словы, якія вельмі былі важныя для Васіля Уладзіміравіча, — гэта праўда, ісціна і выбар. Гэта і ёсць знакавыя, ключавыя словы для таго, каб адкрыць творчасць Быкава і зразумець яго як чалавека і як пісьменніка.

Для мяне ён са сваёй такой сумнай усмешкай застаецца ідэалам чалавека, які добра ведае цану жыцця і смерці і таму адстойвае гэтае жыццё з усімі яго бедамі, слязьмі, радасцю».

Данута БІЧЭЛЬ:

«Чытаць Быкава было цяжка, але гэта было дзякуючы ягонаму магічнаму стылю. Ён зацягваў чытача сваім залішне спакойным апавяданнем, нагляданнем збоку, што нельга было адарвацца ад тэксту. Прыходзіла нешта новае, створанае ім, і прыходзіў канец нармальнаму жыццю — ні есці, ні піць, ні працаваць, пакуль не прачытаеш. І потым ходзіш у нейкім чадзе, пакуль не вылезеш з гэтага.

Сам аўтар як бы заставаўся непрысутным. Было толькі тое, што ён прыпаднёс. А прыпадносіў тое, што сам перажыў, перабачыў, абдумаў, акуратна запакаваў у аб'ём не вялікі і не малы...

Я думаю, што ў быкаўскім палоне пэўны адрэзак часу пабывала нямала людзей. Нейкім чынам ён выхоўваў народ, фармаваў людскія роты і батальёны. Ён быў у канкрэтным сваім часе, але быў як бы па-за часам, быў па-за нацыяй, але ён быў беларускім...

І, канечне, ён наперадзе. Ён — першы. І хай ён будзе».

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

«У спадчыне Васіля Быкава няма, бадай, нічога, што сёння не было б важным для нас, але найбольш важнае ў ёй — сам Васіль Быкаў. Важная не толькі мастацкая моц ягоных твораў, але і ягоная асабістая, чалавечая вартасць. Важная быкаўская беларускасць, якая складаецца з мужнасці, прынцыповасці, непахіснасці, што ўсё разам складае характар, які ні ў чым не супадае з вобразам рахманага «бульбаша»...

У цяперашняй цынічнай, хамскай, пазбаўленай маралі рэчаіснасці найважныя тыя быкаўскія творы, у якіх паўстае праблема маральнага выбару, а гэта зноў жа — амаль увесь Быкаў. І калі нязломны Сотнікаў у нечым літаратурны, прыдуманы, дык «рахманы» Сушчэня — характар цалкам рэальны. Такі, які ён ёсць у беларуса. Да ўсяго, Сотнікава знішчаюць ворагі, а Сушчэню — праз правакацыю ворагаў — свае. Знішчэнне беларусамі беларусаў, знішчэнне саміх сябе — гэта хіба не найважнае для нас? Гэта хіба не тое, што робіцца і сёння?..

Няхай нясцерпная, але праўда — гэта ўрэшце і ёсць тое, што было самым важным для Быкава і застаецца самым важным для нас».

Юрась ЗАЛОСКА:

«У нашай культуры сёння запатрабавана самае істотнае, што ёсць у мастацкім свеце Васіля Быкава, тое, на чым гэты свет заснаваны, — гэта метафізіка і псіхалогія чалавечага выбару. Драма выбару, ад якога няма куды ўцячы. Тут Быкаў выступае як пісьменнік-чалавеказнаўца, мастак і псіхолаг гэтай драмы, якой ёсць выбар — выбар маральны, каштоўнасны, чалавечы. Выбар, які звязаны з ахвярай...

Істотнае і важнае сёння быкаўскае гуманістычнае пасланне беларусам, усім чытачам яго твораў. Духоўнае ўздзеянне быкаўскіх твораў сёння перакрочвае межы літаратуры і набліжаецца да іншых сфераў духоўнага жыцця: кіно, псіхатэрапіі, рэлігіі...

Гаючая функцыя быкаўскага радка можа быць выкарыстана як духоўны рэсурс нашымі прапаведнікамі. Напрыклад, я асабіста ў Вялікі Пост пабудаваў два казанні ў праваслаўнай царкве на творах Быкава. Першае — на сюжэце рамана «Кар'ер», дзе істотны матыў пакаяння галоўнага героя; другое — на матэрыяле апавядання «Круты бераг ракі», дзе істотны матыў святога чакання і надзеі на сустрэчу. Згаданая аповесць «Сотнікаў», на маё ўспрыманне, — гэта ўвогуле Евангелле ад Быкава, Евангелле разгорнутае, бо тут ёсць не проста Юда-Рыбак, але Юда, паказаны знутры... І паказана непазбежнасць пятлі для Юды».

# Прысвячэнні

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

## Васілю Быкаву

Час стагоддзі, як касой, сцінае,
Веры, царствы, догмы йдуць да ценяў…
Ўсё мінае — Гонар не мінае,
Бо народжаны адным сумленнем.

Калі сонца выб'еца з туману,
Толькі іх і ўспомніць хор народаў,
Воінаў сваіх, святых і зраненых,
Рыцараў сумлення і свабоды.

**19 чэрвеня 1984 г.**

Рыгор БАРАДУЛІН

***

***Васілю Быкаву***

Мы на агонь глядзім
Пры вогнішчы рудым.
Як схімнік-нелюдзім,
Знікае ў неба дым.

Гарыць агонь-багач
І цемру й ціш ірве.
Цень жудасці,
Пабач, —
Ступае па траве.

Няйнакш,
І прашчур наш,
Укленчыўшы агню,
Узняў свой позірк
Аж
Да зор
Упершыню.

## Анёл зьявіўся ў Беларусі

Нечысьць на зямлю біду наклікала.
Перагарадзіла белы дзень гара.
Засталася Беларусь бяз Быкава —
Беднай хатай
Без Гаспадара.

**22 чэрвеня 2003 г.**

Генадзь БУРАЎКІН

***

Даруй, Васіль,
за ўсё,
што перанёс,
За ворагам нанесеныя раны,
За брудныя пляўкі з тэлеэкрану,
За слёзы ўшацкіх ссечаных бяроз.

Даруй, што ўсе свае зямныя дні
Ты азіраўся з горычу міжволі
На памяці закінутае поле
І спадзявання спаленыя пні.

Даруй за наш нялітасцівы час,
За ціхае канаанне роднай мовы,
За ўдзячнасці запозненыя словы
І ласкі зэканомлены запас…

Тужлівымі пакутлівымі снамі
Ты будзеш вечна мроіцца сынам.
Я ведаю —
Ты ўсё даруеш нам…
Але ці зможам дараваць мы самі?

Данута БІЧЭЛЬ

## Васіль Быкаў малюе лодку вясной на беразе Нёмана

Там лёд расстрэльвае вясна.
Чакаем добрую паводку.
Ужо Васіль малюе лодку,
Прыбег на Нёман давідна.

Ён выдаў кнігу не адну,
Адзін, як Нёман, задумлёны,
Над імі каркаюць вароны,
Чытае свет яго вайну…

А тут не свет, а іншы свет.
Усіх бы тут пазаматалі,
Тут не ў пашане божы талент.
Людзей не любіць людаед.

Мазгі праела ім іржа.
Таму тут кожны свойскі хлопец
Задушыць Быкава і ўтопіць.
Прыб'е цвікамі да крыжа.

Сталіца кліча не адна.
Шануе геніяў Еўропа.
Даесць і Быкава хвароба,
Праходзіць тут яго вайна.

Сярод здзічэлых воўчых зграй
Тварыць, гібець, як небараку,
Усё жыццё ісці ў атаку
І паміраць за родны край.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## Я перад вамі з памяццю сваёй…

***Васілю Быкаву***

Я перад вамі з памяццю сваёй.
Адному мне бывае цяжка з ёй.
Ідзе яна за мною, след у след,
ідзе за мною многа зім і лет.

Я перад вамі з памяццю сваёй…
Ніколі я ўжо не забуду бой
дзе ўбачыў блізка смерць упершыню,
дзе сябра я выносіў з-пад агню.

Я перад вамі з памяццю сваёй.
Яна жыве ў лістоце веснавой.
Пачую, як гадзіннік ночку б'е, —
і мроіцца трывожна кліч яе.

Яна то зоркай ранняй задрыжыць,
то хваляю азёрнай набяжыць.
Убачу, як заход гарыць ў агні,
і ўспомню тыя ночы, тыя дні…

Я вас прашу, не зведаў хто вайны,
прашу вас, мае дочкі і сыны,
узяць хоць долю памяці маёй —
каб потым ёй не зарасці травой.

Мне часам груз яе не па плячы.
Не знаю часам, як ёй памагчы.
Я мушу падзяліцца з вамі ёй.
Я перад вамі з памяццю сваёй…

Сцяпан ГАЎРУСЁЎ

## Васілю Быкаву

Васіль Уладзіміравіч
Быкаў
У суаўтары
праўду паклікаў.
Таму яго мужныя
сягаюць творы
за моры
і горы.

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Тым, хто ваявалі…

Сорак трэці. Віхура смяротная.
Ёй ні краю яшчэ, ні канца.
Як ты бачна, бяда ўсенародная,
У паглядзе падлетка байца.

Мне б хапіла свайго незабыўнага,
Толькі як я пра тых прамаўчу? —
Шынялёк і пілотачка Быкава
Неадступна стаяць уваччу.

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

## Васілю Быкаву

Усё было, але сваёй гісторыі
Ні кропелькі на здзек я не аддам.
За свет, што потам і крывёю створаны,
Адказваю без агаворак сам.
Усё было, ды шлях які агораны,
Ты толькі зрэдку кінь пагляд назад!
Разведка боем — гэты шлях нятораны,
А бой не абыходзіцца без страт.
Усё было, але варункі розныя
Мы сэрцам пераплавілі сваім.
Запозненай не трэба асцярожнасці
Аднолькава —
ні мёртвым,
ні жывым.
Хоць часам праўда
прад маной і гнулася,
Ды не на гэтым белы свет стаіць…
Тым,
хто спрабуе паднавіць мінулае,
У будучым няма чаго рабіць.

Вольга ІПАТАВА

***

***Васілю Быкаву***

У час, калі твая
Яшчэ ненароджаная душа
Лётала над зямлёю,
Шукаючы сабе месца —
Ён, маладзенькі салдат,
Прыпадаў да яе грудзьмі,
Гасячы смяротныя пялёсткі агню.

У час, калі да тваіх
Дзіцячых пластылінавых мазгоў
Падбіраліся абцугі сістэмы,
На іх крыжам сумлення лёг
Яго Сотнікаў — і ты
Па Круглянскім мосце пайшоў
На іншы бераг — да праўды.

У час, калі пачынаюць зноў
Нас праз мінулае клікаць
Да прывіднай светлай будучыні
І прабівае "Стынгерам" самалёт,
На якім ты імкнешся ўзляцець, —
Ён, Быкаў, зноў і зноў
Захіляе чорныя дзіркі сабой.

…Каб табе хапіла паветра
да прызямлення
На аэрадроме Свабоды…

Дмытро ПАЎЛЫЧКА

## На магіле Васіля Быкава

На магіле Васіля Быкава
Камень з белаю жылаю,
Быццам бліскавіца застыгла ў ім,
Грымнуўшы з неба.

Я дакрануўся, а яна пячэ,
Гэта не з неба, а скрозь камень
Агонь вялікага
беларускага болю цячэ,
З сэрца зямлі,
дзе Васіль Быкаў спачывае.

Беларусь, тваё сэрца
Нават пад каменем не памірае,
А ў руку маю б'ецца,
Б'ецца ў маё сэрца.

**6. II. 2009 г. у Мінску.**

**Пераклаў з украінскай мовы**
**Вячаслаў РАГОЙША**

Валянцін ТАРАС

## На «Дзяды»

***Васілю Быкаву***

«Дзяды» ахуталі зямлю
журбой кастрычніцкай парошы…
І зноў агонь па Васілю
вядуць цэкісты, ніби бошы.

Глядзяць у снайперскі прыцэл,
як Сталін, хцівымі вачыма,
а ў Васіля пяро ў руцэ
і толькі праўда за плячыма.




У снайпераў патронаў шмат,
ды ўцяміць снайперы не ў стане:
страляй па зорцы хоць з гармат —
яна свяціць не перастане.

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

## Абеліскі

***Васілю Быкаву***

Жывём,
як светлай памяці зарок.
Дзе б ні было —
у Гродне а ці ў Мінску,
З нас кожны мае ціхі свой куток.
І ў ціхім тым кутку — па абеліску.

Іх падымаць і ставіць ёсць каму…
Да помнікаў іду не са слязамі.
Калі вы маўчыце, то ўсё таму,
Што самае галоўнае сказалі!

Мой абеліск!
Няпраўда, што мяжа
Гадоў нас раздзяляе вінавата.
Бо я прыходжу не затым, каб жаль
Аддаць спаўна, а як сястра да брата.

Я ведаю: ёсць час скупы і горкі,
Ёсць міг, калі у подзвігу сваім
Жывыя ўсё ж звяртаюцца
да мёртвых,
І мёртвыя адказваюць жывым!

Зелімха ЯНДАРБІ

## Сумленне

***На смерць Васіля Быкава***

Не наступіў я на горла песні сваёй,
Тым болей чужой,
Бо ведаў, што немагчыма
Гэткае здзеяць сіле любой
Ні горлам луджоным,
Ні вызверанымі вачыма.
Ні фараонам розных масцей
Ні ў Старажытным Егіпце,
Ні ў Рыме першым, другім і трэцім.
Ні ў прастольм Крамлі,
Што шырыцца любіць хутчэй,
Ні ў хмарачосістым Вашынгтоне,
Што ездзіць у залатой карэце.
Ні цяпер,
Ні ў наступным,
Ні ў мінулым.
І калі нават свет увесь закрычыць,
Захлынуўшыся ўласным гулам.

Я ніколі не верыў,
Што могуць музы маўчаць.
Калі
Прамаўляюць тамагаўкі і гарматы.
І калі нават атамны смерч
Спрабаваў стрэсці мозаг Зямлі,
Сумленне і толькі сумленне
Ратавала сусвет ад страты.
Я ведаў,
Што велічы на зямлі няма ніякай.
Ёсць Людства,
І вышэйшага за яго няма нічога.
Я зноў пераканаўся ў гэтым,
Калі Вечнасць забрала з сабой
Чалавека,
Чыё сумленне, як дар нятленны
Ад Бога.

**23 чэрвеня 2003 г.**

**Пераклаў з чачэнскай мовы**
**Рыгор БАРАДУЛІН**

# «Літаратура павінна праявіць крыштальную праўдзівасць і шчырасць»

***Гэтая гутарка з серыі «Рабочы стол пісьменніка» адбылася 60 гадоў таму. Гутарка празаіка Васіля БЫКАВА перад самым зенітам ягонай творчай славы — і паэта, загадчыка літаддзела штотыднёвіка «Літаратура і Мастацтва» Анатоля ВЯРЦІНСКАГА. Гутарка на той час ужо сяброў у творчасці і жыцці.***

***Трываласць і вернасць таго сяброўства засведчаць дзесяцігоддзі выпрабаванняў, а ў той няблізкі ўжо 1964 год, здавалася, «усё толькі пачыналася»: і пакутная іліяда з апублікаваннем ці не найгалоўнага і найзначнага твора Васіля Уладзіміравіча «Мёртвым не баліць», і развітанне з апошнімі ілюзіямі савецкай «справядлівасці», і гартаванне Яе Вялікасці Праўды ў беларускай літаратуры і беларускім жыцці. Гартаванне Праўды, якое, на жаль, не закончылася і праз 60 гадоў пасля згаданай гутаркі, і праз 100 гадоў пасля нараджэння Народнага пісьменніка...***



Анатоль ВЯРЦІНСКІ і Васіль БЫКАЎ. 1960-я гг.

Гродна, вуліца Кашавога, 28, кв. 20...

Гэта і ёсць адрас рабочага стала пісьменніка, адрас Васіля Быкава. Аглядаю невялікі «рабочы» пакойчык Васіля Уладзіміравіча, ва ўсіх кутках якога — у шафе, на стэлажы, на паліцы — кнігі, часопісы (дарэчы, паліца цалкам адведзена пад ваенную літаратуру — як мастацкую, так і дакументальную, мемуарную).

Ёсць тут і «рабочы стол пісьменніка» ў літаральным сэнсе гэтых слоў. На стале толькі што прысланая з рэдакцыі «Роман-газеты» карэктура: неўзабаве ўсесаюзны чытач атрымае тры аповесці Васіля Быкава — «Франтавая старонка», «Пастка» і «Альпійская балада». Тут жа яшчэ некалькі кніг. Гэта зарубежныя выданні твораў Васіля Быкава, у прыватнасці, яго «Трэцяй ракеты».

Я пачынаю нешта гаварыць пра сапраўдны поспех, пра славу. Але бачу, што Васіль Уладзіміравіч тут жа змаўкае, бянтэжыцца, адчуваю, што яму, з яго сціпласцю і абвостранай патрабавальнасцю, творчай і грамадзянскай, такія размовы не вельмі даспадобы, — і мяняю тэму, пытаюся пра новую аповесць.

— Пішу. Частка ўжо зроблена... Вось яна, — дастае Васіль Уладзіміравіч з шуфляды папку. На першым лістку — план аповесці, накіданы дробным уборыстым почыркам. Асобныя тэзісы пранумараваны. На пытанне, ці ўся аповесць прадумана, вынашана, пісьменнік адказвае: «Уся».

— І назва ўжо ёсць? — Ёсць. «Мёртвым не баліць» — так, відаць, будзе называцца, калі не ўзнікне што-небудзь іншае.

— Значыць, пра вайну?

— Так, пра вайну, — задуменна паўтарае Васіль Уладзіміравіч. — Прытым на гэты раз рэч амаль аўтабіяграфічная... Паглядзі вось гэтую паперу.

Я чытаю. Гэта пісьмо з архіва Міністэрства абароны СССР. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Адначасова паведамляю, што ў імянным спісе беззваротных страт 399-га стралковага палка за 1943—44 гг. значыцца: «Кам. стр. узвода л-т Быкаў Васіль Уладзіміравіч забіты 10. І. 1944 г., пахаваны на цэнтральных могілках в. Вялікая Севярынка Кіравагградскай вобласці».

І ён расказвае, якім чынам трапіў у «забітыя», — як быў паранены каля ўкраінскай вёскі Вялікая Севярынка, як ішлі ў шпіталь з таварышам і адначасова вялі палоннага немца, як наткнуліся на нямецкія танкі...

— І вось гэта ўсё, уласна кажучы, і лягло ў аснову аповесці, будзе складаць яе сюжэтную канву. Спачатку мне нават хацелася напісаць усё так, як было ў жыцці. Але пачаў працаваць і адчуў патрэбу дзе-нідзе абагульняць, узбагачаць уласныя назіранні вымыслам.

Калі Васіль Уладзіміравіч знаёміў мяне са зместам аповесці, то звяртаў увагу на тое, як адзін з герояў аповесці, нямецкі салдат, мяняецца, мяняе свае паводзіны ў залежнасці ад абставін, ад ваеннай неабходнасці. Я здагадваюся, што недзе тут — ідэйная сутнасць твора.

— Так, недзе тут, — пацвярджае аўтар. — Мінулая вайна паказала, якім высокім і якім нізкім можа быць чалавек. Да якой велічы могуць узняцца адны і да якой нізкасці апусціцца другія. Побач з прыкладамі гераічнымі, прыкладамі, якія ўзвышаюць чалавечую сутнасць, вайна паказала ў той жа час з усёй нагляднасцю, да чаго прыводзіць бяздумнае паслухмянства перад яе ўладай, яе логікай, да якой мізэрнай вартасці зводзіцца чалавечая асоба, калі дзейнічае ваўсю правіла: мэта — усё, сродкі — нішто.

Гутарка выходзіць за рамкі аповесці. Я прыгадваю, што сёй-той гаворыць часам пра «тэматычную аднастайнасць» Васіля Быкава, пра тое, што пісьменнік як быццам бы паўтарае сябе. Пытаюся, што ён сам адказаў бы на такія разважанні.

— Што б я адказаў?.. Матэрыял мінулай вайны, па-мойму, невычэрпны. Невычэрпны і вельмі павучальны. Вайна пацвердзіла не толькі жыццёвасць нашага ладу, але і выявіла, агаліла ўсё тое, што было народжана культам асобы. Словы вядомага сталінскага звароту: «Браты і сёстры, сябры мае...» — упершыню за шмат гадоў паказалі банкруцтва чужой народу культаўскай ідэалогіі, палітыкі сляпога падаўлення і азначалі настойлівую патрэбу ў чалавечнасці, без якой немагчыма было выстаяць у бязлітаснай барацьбе. Таксама, як і без усведамлення сваёй нацыянальнай і дзяржаўнай годнасці.

Я вельмі шкадую, працягвае Быкаў, па нейкай унутранай асацыяцыі, што не ма́ю асабістага вопыту ў партызанскай вайне, якая мне ўяўляецца найцікавейшым матэрыялам для сучаснага мастацтва. Не шмат якія нацыі могуць пахваліцца столькімі прыкладамі свабодалюбства і такога ўпартага супраціўлення ворагу, як беларусы. На жаль, мы вельмі не па-гаспадарску ставімся да здабыткаў сваёй гісторыі. Словам, мы — жывыя ўдзельнікі і сведкі — абавязаны захаваць для нашчадкаў, для чалавецтва наш горкі, наш гераічны і такі павучальны вопыт. Пакінуць яго на стагоддзі, каб людзі помнілі яго і не паўтарылі тое, што перажылі мы.

Мне ўспамінаецца адна з тых кароткіх, паспешлівых размоў, якія былі да гэтага з Васілём Быкавым. У час такой размовы адзін мой знаёмы загаварыў з ім пра майстэрства. Васіль Уладзіміравіч адказаў тады: «Не ведаю, ці майстар я. Не гэта — галоўнае. Галоўнае — сказаць праўду пра вайну».

— Гэта маё цвёрдае перакананне, — гаворыць цяпер Быкаў. — У дачыненні да праблем мінулай вайны літаратура павінна праявіць крыштальную праўдзівасць і шчырасць. Толькі праўдзівыя і толькі да канца асэнсаваныя сведчанні мінулай вайны могуць саслужыць чалавецтву патрэбную службу. Было б злачынствам і перад сучаснікам, і перад будучай гісторыяй пакінуць нашчадкам паўпраўду «культаўскіх» твораў, горшую за бессаромную хлусню, белетрысцкае «сачыніцельства» пабочных назіральнікаў і лакіроўшчыкаў. Абавязак кожнага сведкі і ўдзельніка мінулай вайны — гаварыць толькі праўду, якой бы горкай яна ні здалася, будучы пры гэтым бязлітасным у сваёй шчырасці. Іменна ў гэтым, як пісаў нядаўна Добрыца Чосіч, адзіны шлях служэння дабру, свабодзе, братэрству і чалавеку ў дачыненні да нашай нядаўняй гісторыі.

Цікавыя думкі выказвае Васіль Уладзіміравіч і пра майстэрства (я ўсё ж «справакаваў» яго на гэтую размову), пра мову сённяшняй прозы. І выказвае іх з той глыбокай перакананасцю, якая сведчыць аб роздуме над уласным вопытам, аб нястомнай унутранай працы.

— Відавочна, што мова, стыль лепшых твораў нашай прозы, у прыватнасці, твораў аб вайне, імкнуцца да лапідарнасці, эканомнасці, натуральнай прастаты. Ды гэта і зразумела. Бо адна справа, калі гутарка ідзе пра рэчы банальныя, звычайныя, а зусім другая — калі пішаш пра нешта самае істотнае, пра рэчы, поўныя драматызму, калі гутарка ідзе аб жыцці і смерці. Тут важна перш за ўсё захаваць меру, мастацкі такт. Калі ў творы паўстае чалавек са сваім жывым і непаўторным «я» і калі ён сам пачынае гаварыць «пра час і сябе», то адсюль вынікае непасрэднасць яго мовы, яе арганічнасць. Часам разважаюць так, як быццам бы праблема ў тым, каб знайсці сакавітае народнае, часам нават дыялектнае слоўца і ўкласці яго ў вусны героя. А праблема сёння для нас у іншым. Вось як мне паказваць свайго камбата? Якой мовай яго надзяляць? Народнай мовай, мовай нашай вёскі? Але ў арміі такой мовай не гаварылі, тым больш афіцэры. Браць за ўзор нейкую нівеліраваную мову? Таксама нельга. Вось і шукаеш патрэбны эквівалент, такі моўны сплаў, каб герой гаварыў па-беларуску і каб у той жа час яго мова не была ні псеўданароднай, ні «статутнай».

Я разумею, што калі гутарка ідзе пра вёску, паказваюцца людзі вёскі, то тут пісьменнік можа браць вясковы моўны пласт, чэрпаць з яго і сваю мову, і моўныя характарыстыкі. Але калі маеш справу з героямі іншага плана — прыходзіцца ісці па іншым шляху.

Відавочна ж, што ідзе працэс урбанізацыі літаратуры. І калі нам слепа трымацца па-ранейшаму за мову нашай вёскі (прытым не сённяшняй, а ўчарашняй), мы будзем многа траціць. Ну ўзяць, да прыкладу, раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні». Як бы выглядалі, скажам, там такія героі, як Славік, Маша, Яраш, калі б яны загаварылі раптам мовай далёкай палескай вёскі? Вобраз, вядома, разбурыўся б ад такой неадпаведнасці.

Увогуле, як мне здаецца, сёння з беларускай літаратурнай мовай адбываецца тое, што было з рускай літаратурнай мовай XIX стагоддзя. Асімілюючы розныя стылі і пласты, яна, з аднаго боку, пазбаўляецца ад стылізацыі пад мову народную, з другога — ад кніжнасці і літаратуршчыны і імкнецца да натуральнасці і непасрэднасці гутарковай мовы. Не заўважыць гэта нельга, як і нельга ігнараваць у нашай пісьменніцкай практыцы...

*Запісаў Анатоль ВЯРЦІНСКІ (1931—2022)*

# Васіль БЫКАЎ: «Пісьменнік мае справу толькі з Богам»

***Васіль Быкаў не быў аратарам. Наогул, ён найперш імкнуўся выявіць свае думкі, меркаванні, прагнозы ў прозе і публіцыстыцы. Але грамадска-палітычны вір 1990-х гадоў вымусіў яго стаць трыбунам, транслятарам новых нацыятворных ідэй. Сведчаннем таго сталі ягоныя сустрэчы і выступленні перад чытачамі, — як, напрыклад, гэтая, што адбылася ў Мінску 26 верасня 1991 года. 25 жніўня набыла статус канстытуцыйнага закона Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы — праз тры дні пасля правалу путчу ГКЧП у Маскве, калі на тэрыторыі рэспублікі была спыненая дзейнасць Кампартыі. 19 верасня 1991 года наша краіна пачала называцца Рэспубліка Беларусь.***

***Праз тыдзень пасля таго і адбылася сустрэча з Васілём Быкавым, вытрымкі са стэнаграмы якой публікуюцца ніжэй.***



### «Мы будзем доўга залежаць ад эканомікі суседзяў»

**Васіль Быкаў:** — Сёння такая сустрэча не можа абысціся без гаворкі на палітычныя тэмы. І на рабоце, і дома — усюды палітыка. Але ад нашых гаворак справа не змяняецца, а наадварот — жыццё ўсё горшае, а наперадзе нас чакаюць вялікія выпрабаванні і вялікая бяда. Тут я хацеў бы сказаць вось пра што: людзі павінны ведаць і разумець элементарныя рэчы, таму што без разумення іх цяжка выбраць правільную пазіцыю. Першае: Савецкі Саюз як дзяржава распаўся таму, што ён існаваць далей не мог, бо вычарпаў усе свае магчымасці. І, тым не менш, тут няма ніякай заслугі ні камуністычнай партыі, ні Гарбачова, ні народа, ні дэмакратыі — у гэтым гістарычная заканамернасць. Гэта трэба ўсім ведаць і з гэтым лічыцца. Час імперыі мінуў. І другое: суверэнізацыя, якая стала папулярнай апошнім часам, — неабходнасць, гэта спроба паратунку. Шэсць гадоў перабудовы нас пераканалі: уратавацца ўсім разам, як нам абяцалі партыйныя агітатары, немагчыма. Стан эканомікі, палітыкі такі, што ўратавацца можна толькі паасобку, і кожная нацыя пачала ратавацца па сваім разуменні.

Беларусь да разумення ратавацца прыйшла вельмі няхутка, далёка не першая, магчыма, нават апошняя. Наша кіраўніцтва, і ў першую чаргу партыйнае, усяляк супраціўлялася. Аднак жа, гэтае супраціўленне аказалася безвыніковым, бо ўсё-такі трэба было набыць незалежнасць. І гэта правільна.

Зірніце на гістарычны вопыт іншых народаў. Кожная нацыя ладзіць жыццё сваёй адасобленай сям'ёй. Гэта не значыць, што яна цалкам адасабляецца ад усяго свету. Але свой парадак трэба рабіць самім і ў сваёй хаце. Дэрэчы, ідэя калектывізму аджыла сваё. Гэтыя камуны, арцелі, інтэрнаты 20—30-х гадоў... Нават нашае камуністычнае кіраўніцтва прыйшло да высновы, што кожнай сям'і трэба даць асобную кватэру. Гэта ж адносіцца і да нацый. Кожная нацыя павінна жыць сваёй сям'ёй. Як вы бачыце, у той жа Еўропе нядрэнна жывуць, бо дзяржаўнасць там пабудавана на нацыянальнай ідэі, а не на інтэрнацыянальнай. Інтэрнацыянальная ідэя, якая доўгі час у нас існавала, не вытрымала выпрабавання часам. І не толькі ў нас, але і ва ўсім свеце за невялікім выключэннем. Нацыянальная ідэя існуе і працвітае. Для гэтага не трэба быць вялікім народам, як, напрыклад, расійскі народ, нямецкі або французскі. Можна быць і маленькім, як бельгійскі, галандскі, нарвежскі. Гэтыя народы жывуць у сваіх межах, і жывуць выдатна.

Паколькі наша беларуская нацыя страціла шмат часу, каб прыйсці да элементарных высноў, ладзіць сваю суверэннасць будзе вельмі і вельмі цяжка. Таму не трэба думаць, што суверэннасць адразу прынясе нам шчаслівае жыццё, высокі эканамічны ўзровень.

Звычайная партыйная прапаганда атаясамлівае палітычную незалежнасць з эканамічнай адасобленасцю — гэта абсалютна няправільна. Кожная нацыя, якая аддзяляецца, імкнецца толькі да палітычнай незалежнасці і максімальнай эканамічнай сувязі з усімі суседзямі. Таму і ў беларусаў з палітычнай незалежнасцю эканамічныя зносіны будуць паглыбляцца і набываць нацыянальны разумны характар, але ўсё роўна нас чакаюць вялікія ахвяры. Таму жыццёвы ўзровень будзе зніжацца на працягу бліжэйшых гадоў.

Мы будзем доўга залежаць ад эканомікі суседзяў. Таму нам неабходна зразумець, што трэба пайсці на пэўныя ахвяры, але баюся, што мы зноў не хутка гэта ўсвядомім. Мы павінны зразумець, што апрача эканамічнай мэтазгоднасці, суверэннасць мае яшчэ і духоўны сэнс. Наш дабрабыт, наш заўтрашні дзень залежыць ад меры ўсведамлення і гатоўнасці да пэўных ахвяр. Мы ведаем, што, напрыклад, прыбалты гатовы на ахвяры, і яны гэтую гатоўнасць нам усім паказалі. Не ведаю, ці гатовы на ахвяры беларусы.

*Пытанне*: — Васіль Уладзіміравіч, што нас чакае ў першыя гады незалежнасці?

— У першыя гады нас чакае вельмі зацятая барацьба усё з той жа ідэалогіяй, псіхалогіяй і палітыкай спыненай партыі. Трэба ведаць, што гэтая партыя не здасца і яна цяпер выпрацоўвае новыя метады далейшай сваёй працы. У ёй ёсць вялікія сілы. І тое, што адбылося ў Таджыкістане, можа вельмі лёгка адбыцца ў любы момант і ў Беларусі.

*Пытанне*: — Раскажыце пра вашыя ўзаемаадносіны як народнага пісьменніка з іншымі народнымі пісьменнікамі.

— Вы павінны разумець, што народныя пісьменнікі розныя. Напрыклад, я і Шамякін. У нас нічога агульнага няма, таму што Шамякін доўгі час быў членам ЦК, а ў апошні час нават членам бюро ЦК, а я быў усё сваё жыццё беспартыйным, і нашы інтарэсы нідзе не перасякаліся. Канешне, мы былі ў адной пісьменніцкай арганізацыі, але так сталася, што ні з Шамякіным, ні з Крапівой ды амаль што ні з Танкам я не меў ніякіх адносін.

*Пытанне*: — Што трэба зрабіць нашым палітыкам, каб незалежнасць Беларусі прызналі ўсе краіны? Якія партыі на сённяшні дзень маюць сілу?

— Каб прызналі ўсе краіны, трэба набыць незалежнасць. Трэба, каб Беларусь стала самастойнай дзяржавай. Самі паглядзіце, калі Прыбалтыйскія краіны аддзяліліся і сталі самастойнымі, іх усе прызналі.

Палітычных сіл у рэспубліцы многа. Створана шмат партый, самых розных, і ўсе яны невялікія і рэальнай палітычнай сілы пакуль не ўяўляюць. А каб наш парламент быў дзейсным, неабходна, каб гэты Вярхоўны Савет самараспусціўся і былі праведзеныя новыя выбары з удзелам усіх партый. Але ўсё гэта вельмі праблематычна, бо няма такой сілы, якая б прымусіла Вярхоўны Савет самараспусціцца. Відаць, яшчэ тры гады будзем таптацца на месцы, пакуль скончацца яго паўнамоцтвы.

### «Трэба весці народ да ісціны»

*Пытанне*: — Як вы, Васіль Уладзіміравіч, глядзіце на тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы, з якімі ў свой час выступіла кіраўніцтва Беларусі?

— На гэты конт у мяне катэгарычная пазіцыя: ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў, ніякіх памежных спрэчак, бо ўсё гэта працуе не на нашу галоўную ідэю, а толькі разбурае яе. Тэрытарыяльная праблема ніколі не можа быць вырашана справядліва, яна толькі дасць яшчэ адно полымя вайны. Іншая справа, калі Беларусь стане суверэннай дзяржавай і вырашыць усе ўнутраныя праблемы, набудзе дэмакратычных суседзяў. Тады на дэмакратычных, добрасуседскіх асновах можна шляхам перагавораў абмеркаваць і спрэчныя тэрытарыяльныя пытанні. Беларусы ў Літве займаюць правільную пазіцыю. Яны шануюць той дом, дзе жывуць, і іх за гэта там паважаюць.

*Пытанне*: — Што сёння павінна рабіць інтэлігенцыя, каб унесці свой уклад у незалежнасць Беларусі?

— Трэба весці народ да ісціны. Канешне, ні адна дэмакратычная структура не можа параўнацца з той магутнай бальшавіцкай прапагандай, якая столькі гадоў панавала ў нас. Не толькі ў райкамах, абкамах і ЦК былі аддзелы прапаганды, але і аддзелы дэзінфармацыі ў КДБ, і натуральна, што з усім гэтым справіцца цяжка. І калі распаўсюджваюцца самыя розныя чуткі, дык гэта робіцца людзьмі з пэўнымі намерамі. Вы пагледзіце цяпер на былыя партыйныя газеты, на тую ж «Звязду» ці «Советскую Белоруссию», якія сёння сталі незалежнымі — яны па-ранейшаму працягваюць тую ж ранейшую лінію. На іх старонках і сёння з'яўляюцца матэрыялы, якія кампрометуюць дэмакратычныя органы ўлады, з'едлівыя кпіны ў адносінах да суверэннасці.

*Пытанне*: — Якія ў вас творчыя планы?

— Гэта толькі здаецца, што пісьменнік мае ўладу над сваімі намерамі. Я, напрыклад, адношуся да пароды тугадумаў. Для таго, каб нешта выспела, мне трэба пра гэта доўга думаць і гэта перажыць. Цяпер жыццё хуткаплыннае, і проста немагчыма зрабіць нейкі прагноз наперад, ды і асэнсаваць тое, што адбылося, нялёгка. І тыя падзеі, якія былі для ўчарашняга дня важнымі, сёння ўжо не маюць ніякага значэння. І наадварот, падзеі, на якія ніхто не звяртаў увагу, раптам набываюць выбуховую сілу.

*Пытанне*: — Як вы глядзіце на перспектывы адукацыі ў незалежнай Беларусі?

— У нас была адзіная агульнаадукацыйная сістэма, яна была 73 гады, і вы ведаеце, да чаго яна дайшла. І калі, скажам, Беларусь пяройдзе на суверэнную адукацыйную сістэму і так атрымаецца, што яе суседзі, скажам, Балтыя ці Расія, будуць мець больш прагрэсіўную, то мы з вялікім задавальненнем можам лепшае запазычыць. Але ж у незалежнай краіне павінна быць свая агульнаадукацыйная сістэма.

*Пытанне*: — Наколькі сур'ёзна вы ставіцеся да парасткаў імперскіх тэндэнцый такіх арганізацый, як «Отечество», «Русь» і «Белая Россия»?

— Такія парасткі, зразумела, будуць расці, таму што гэтыя шавіністычныя тэндэнцыі панавалі ў нас столькі гадоў, і яны не знікнуць адразу з прыняццем дэкларацыі аб суверэнітэце. Яны будуць існаваць, іх дзейнасць будзе працягвацца, і, зразумела, яны прынясуць шмат непрыемнасцяў нашай суверэннасці. Але я хачу сказаць вось яшчэ што: у тым, што яны існуюць і будуць працаваць, не толькі віна тых людзей, а гэта іх бяда, бо яны не могуць выйсці з зацыкленасці. Іх можна толькі пашкадаваць. Я думаю, што з такімі людзьмі трэба дыскутаваць спакойна, без нервознасці, без нянавісці. Але ж калі не будзе ў іх падтрымкі, то яны самі доўга не праіснуюць. Самае небяспечнае — гэта нервознасць з абодвух бакоў.

### «Поўная праўда пра вайну не сказана»

*Пытанне*: — Васіль Уладзіміравіч, як вы думаеце, ці ўся праўда сказана пра вайну?

Заканчэнне на стар. 5 »

# Васіль БЫКАЎ: «Пісьменнік мае справу толькі з Богам»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 4



— У нашай гісторыі панаваў і пануе «избирательный метод»: з гісторыі выбіраюцца пэўныя падзеі, найбольш прымальныя для рэжыму, і яны затым вывучаюцца і прапагандуюцца. Так будуецца патрэбная палітыка.

Другая сусветная вайна — гэта не толькі чатыры гады бойкі, але і вялікая эпоха ў нашай гісторыі. Прайшло пасля яе шмат гадоў, шмат пра вайну напісана, але поўная праўда пра яе не сказана. І асабліва гэта адносіцца да барацьбы з фашызмам на нашай тэрыторыі. Тут была вельмі складаная сітуацыя, у якой праявіліся ўсе тэндэнцыі: і самыя высакародныя, і самыя нізкія. Іменна ў гады вайны беларускі народ высока засведчыў сваю рэпутацыю. І калі ў свеце пра Беларусь што-небудзь ведаюць, дык гэта ў першую чаргу звязана з вайной, у тым ліку з партызанскай барацьбой. Я разумею: было многа несправядлівага і з боку партызан, таму я думаю, калі запануе поўная дэмакратыя, нашыя вучоныя дабяруцца да ўсіх аспектаў гэтай барацьбы, і ўсё будзе пастаўлена на свае месцы. Вы ж ведаеце, што некалі настольнай кнігай па партызанскай тэме быў двухтомнік Цанавы. Па ім усе вывучалі вайну. Яшчэ і ў наступным стагоддзі нам давяддзецца вывучаць мінулую вайну, каб дайсці да праўды.

*Пытанне*: — Улічваючы новыя звесткі пра вайну, ці змянілі вы некаторыя дэталі ў сваіх творах ці не? Ці будзеце працягваць распрацоўваць і далей тэму вайны?

— Мяне цяпер найбольш цікавіць не вайна, а трыццатыя гады, бо многае, што адбылося ў час вайны — гэта вынік падзей, якія былі перад ёй. Вялікі гвалт супраць народа не мог не адбіцца на вайне. А наконт зменаў у творах, то, безумоўна, улічваючы новыя звесткі пра вайну, я раблю належныя карэкціроўкі, але гэта не заўсёды магчыма.

*Пытанне*: — У час вайны, перабіўшы камандзіраў, салдаты здаваліся ў палон... Магло быць такое ці не?

— Я не чуў пра такое, каб, перабіўшы камандзіраў, салдаты здаваліся ў палон. І ці была ў гэтым патрэба, бо ў палон здаваліся і з камандзірамі, ды і самі камандзіры здаваліся. Выпадкі, відаць, і былі, бо на вайне ўсё было.

### «Самасвядомасць — той капітал, які нельга ўзяць у крэдыт за мяжой»

*Пытанне*: — Паважаны Васіль Уладзіміравіч, у чым вы бачыце найбольшы ўклад сённяшніх дэмакратычных сіл у Беларусі і ў чым слабасць беларусаў?

— Уся справа ўпіраецца ў нізкую нацыянальную самасвядомасць. А зусім нядаўна гэта і непатрэбна было, бо перад людзьмі ставілі адну мэту: зліццё нацый. Цяпер, калі з'явіліся ўмовы, іменна нацыянальная самасвядомасць вырашае ўвесь лёс нацыі. Не эканоміка, не палітыка, бо ўсё гэта «преходящее», а нацыянальная самасвядомасць — той капітал, які нельга ўзяць у крэдыт за мяжой, а толькі як спадчыну ад продкаў. На жаль, беларусы яго не захавалі, і ў гэтым наша няшчасце.

*Пытанне*: — Як вы думаеце, чым нам можа дапамагчы беларускае замежжа?

— На гэтую тэму мне нават сорамна гаварыць, таму што, відаць, унікальны ў гісторыі выпадак, калі метраполія просіць дапамогі ў сваёй няшчаснай, выгнанай у свой час, дыяспары, — гэта жахліва. Беларусы, якія жывуць за мяжой, свой дабрабыт нажылі цяжкай працай, і цяпер мы, якія палівалі іх граззю, не лічылі іх за людзей, а толькі за здраднікаў і злачынцаў, цяпер мы вядзём з імі гутаркі, каб яны нас кармілі. Гэта амаральна, гэта проста сорамна. І калі яны ідуць нам на дапамогу, дык ім гэта даецца не так проста.

Беларуская дыяспара вельмі ўнікальная ў тым, што яна зберагла нашу дарэформенную мову. Нашая ж партыйная газетчына разбурыла ўжо нацыянальную мову, а што засталося, дык засталося спаганеным.

Эміграцыя нам нічога не павінна, а мы павінны ёй.

*Пытанне*: — Як вы ставіцеся да таго, каб ваша кандыдатура была вылучана на пост прэзідэнта Беларусі?

— Я стаўлюся да гэтага абсалютна адмоўна, бо ў бліжэйшы час наогул канчаю з палітыкай і буду ўхіляцца ад розных інтэрв'ю, гутарак і г.д. Я хачу спакойна папрацаваць і закончыць тыя рэчы, якія ляжаць у мяне на стале. У нас ёсць вартыя кандыдатуры на высокія пасады, і народ іх выбера, калі захоча сабе добрай долі.

### «Мастацтва павінна быць абсалютна свабодным»

*Пытанне*: — Ці абавязаны пісьменнік стварыць новага нацыянальнага героя, з якога можна было б браць прыклад моладзі?

— Трэба разумець, што ў адносінах да мастацтва і літаратуры пісьменнік нічога не абавязаны, ён не падпарадкоўваецца ніякай тэндэнцыі, ніякай сістэме. Ён мае справу толькі з Богам. Гэта наша палітыка давяла нас, што мы ўсе абавязаны падпарадкоўвацца існуючай сістэме.

Вазьміце класіку, літаратуру мінулага, калі не было ўплыву палітыкі на творцу, — усе творы выглядаюць інакш. Гэта не значыць, што тады не было ідэалогіі, палітыкі, і калі нешта рабілася палітычнае творцам, то рабілася без усялякіх абавязкаў, без ціску з боку грамадства.

Мастацтва павінна быць абсалютна свабодным, вось толькі тады яно на нешта здольнае.

Цяпер што датычыць нацыянальнага героя, то я сабе не стаўлю такіх задач, каб ствараць нацыянальнага героя, бо лічыў, што самы плённы падыход — паказваць жыццё такім, якое яно ёсць. Жыццё наша далёка не ідэальнае, і герояў не варта шукаць, бо ёсць такое выказванне: «Няшчасная нацыя, якая мае патрэбу ў героях». Зразумела, гэта адносна. Наша нацыя, нават калі мець на ўвазе тую вайну, не мела патрэбы ў героях. Герояў хапала, але ўся справа ў тым, як адносіцца да іх. Возьмем тую ж Осіпаву і Мазанік, якія забілі Кубэ. Так, гэта гераізм, а тое, што 10 тысяч нявінных людзей былі расстраляныя за Кубэ, нікім не прымаецца пад увагу. А гэта ж усё, між іншым, цесна звязана.

*Пытанне*: — Які, на вашу думку, ваш самы лепшы твор?

— Самы лепшы твор — гэта той, які яшчэ не напісаны. Ніхто не пачынае пісаць новы твор як горшы, а як самы лепшы. Ну, а поспех залежыць ад многіх прычын, а некаторыя прычыны не залежаць ад аўтара. А наогул кажучы, цяпер літаратурная творчасць не самае цікавае, пра што можна гаварыць.

*Пытанне*: — Васіль Уладзіміравіч, ці думаеце напісаць твор мемуарнага характару?

— Каб пісаць мемуары, трэба мець асаблівы склад характару. Я не адношуся да тых людзей, якія вядуць нейкія запісы і маюць запісныя кніжкі, і не стараюся запамінаць, што са мной было. Але чытаць мемуары я люблю, і, скажам, калі напісаць кулуарны летапіс сучаснай беларускай літаратуры — гэта было б вельмі і вельмі цікава. Я ведаю, што ёсць такі чалавек, які вядзе летапіс накшталт «Лысай Гары», толькі ў прозе. Думаю, гэта некалі будзе вельмі цікава.

### «Пісьменнікі былі рычагамі партыі»

*Пытанне*: — Васіль Уладзіміравіч, як вы лічыце, праявы чалавечай подласці — гэта прыродная якасць ці набытая?

— Можа быць і прыроджаная, можа быць і набытая, але нейкую заканамернасць тут прасачыць вельмі цяжка. Часам у абсалютна амаральным асяроддзі вырастае чыстая і разумная істота, і наадварот.

*Пытанне*: — Як вы характарызуеце сённяшні стан беларускай літаратуры?

— Беларуская літаратура цяпер, відаць, як і наогул савецкая літаратура, перажывае нейкі фол, і гэта зразумела, бо на літаратуру абрынуўся цэлы каскад падзей і знамянальных з'яў самага рознага парадку, таму многія літаратары проста разгубіліся. Я думаю, што так працягвацца доўга не будзе. У нас ёсць таленавітыя людзі, і трэба спадзявацца, што будзе напісана шмат цікавага.

*Пытанне*: — Чаму ў наш час такія пасіўныя пісьменнікі?

— Каб толькі пісьменнікі не хадзілі на мітынгі, дык гэта яшчэ паўбяды, але ж многія з іх выступалі супраць мітынгаў, супраць забастовак, падтрымлівалі палітыку кампартыі, змагаліся з Беларускім народным фронтам. Усе гады пісьменнікі былі рычагамі партыі, у іх было кіраўніцтва, якое ставілася са згоды ЦК партыі, у іх была вялікая партыйная арганізацыя... І калі вы думаеце, што папулярныя пісьменнікі — гэта галоўнае начальства, то вы памыляецеся. На самой справе таленавітыя пісьменнікі ў Саюзе пісьменнікаў заўсёды сядзяць на задніх лаўках, а балем правяць зусім іншыя людзі, якіх вы не ведаеце і, можа, ніколі не будзеце пра іх ведаць... Я ўжо не кажу пра дзясяткі іншых актыўных камуністычных рычагоў. Адных толькі сексотаў там па меншай меры палавіна. І вы хочаце, каб яны хадзілі на мітынгі?

### «За апошнія гады Беларусь засведчыла сябе з самага рэакцыйнага боку»

*Пытанне*: — Ці існуе інфармацыйная блакада Беларусі?

— Для таго, каб маскоўскія выданні друкавалі звесткі з Беларусі, патрэбны пэўныя захады ўласных карэспандэнтаў, што ёсць у рэспубліцы. Ніводны наш карэспандэнт, які працуе, напрыклад, у «Правде», не прызначаны ў Маскве, а ўсё рабілася ў нас у ЦК. Можаце ўявіць, у чым зацікаўленыя і каму служылі гэтыя людзі.

Усе вы памятаеце, як Алесь Адамовіч назваў Беларусь Вандэяй перабудовы, і беларускае кіраўніцтва ўсе гэтыя гады апраўдвала гэтую назву. У нас стрымліваліся дэмакратычныя працэсы і ўсё астатняе, што датычылася перабудовы, і гэта стварыла пэўны імідж у народаў краіны пра Беларусь. Цяпер існуе такая думка, што расійская дэмакратыя кепска адносіцца да Беларусі з прычыны сваёй імперскай ідэалогіі. Але не толькі з гэтай прычыны, а і з таго, што за апошнія гады Беларусь засведчыла сябе з самага рэакцыйнага боку. То чаму Ельцын павінен добра адносіцца да нашай рэспублікі, якая ўсе гэтыя гады ўлагоджвала Лук'янава і Гарбачова і не падтрымлівала расійскі парламент? Гэта не распаўсюджваецца на народ, а Ельцын і не гаворыць пра народ, а пра кіраўніцтва.

Дык што рабіць? Два гады назад у Маскве я расказваў Гарбачову пра падзеі 30 кастрычніка [Маецца на ўвазе мірны мітынг 1988 года «Дзяды», арганізаваны дэмакратычнымі сіламі Беларусі. Яго ўдзельнікі былі жорстка разагнаныя спецслужбамі; упершыню міліцыя выкарыстала супраць мітынгоўцаў газ «Черёмуха» і гумавыя дручкі; было затрымана 72 чалавекі. — *Рэд.*], а ён не верыў і глядзеў на мяне, і паціскаў плячыма: «Ну, почему же так? Ну, как это было?». Там жа, у Маскве, я даведаўся, што ў многіх была такая інфармацыя пра 30 кастрычніка, што гэта быў путч нацыяналістаў з мэтай захопу ўлады, які паспяхова падавіла міністэрства ўнутраных спраў.

*Пытанне*: — Ці адказвае народ за сваю ўладу?

— У канцы сваіх дзён Гітлер наракаў на свой народ, які не здзейсніў ягоных задум. Але праўда заўсёды на баку народа. Народ, які дазваляе сябе асядлаць і доўга церпіць, то народ таго, значыць, і варты.

# Васіль БЫКАЎ: «Дажыць бы да вясны…»

***З усёй эпісталярнай спадчыны Васіля Уладзіміравіча Быкава ці не самыя шчырыя, сардэчныя, асвечаныя сямейнай памяццю старонкі, — гэта лісты пісьменніка да роднай сястры Валянціны Уладзіміраўны Быкавай, па мужы — Шамук (ліпень 1926—4 ліпеня 2016). Яны пісаліся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, актыўна — у 70—80-я гады, калі Быкаў жыў у Гародні (вуліца Свярдлова, д. 18, кв. 20), найбольш часта — у 90-я з Мінска-Менска (з вуліцы Танкавай, д. 10, кв. 132), і потым… з мясцін вымушанага паязджанства.***

***Кароткія расповеды пра сябе і жонку Ірыну Міхайлаўну, пра сыноў, нявестак і ўнукаў, пра быццёвыя, творчыя і грамадскія клопаты…***

***Бачыцца, на жаль, даводзілася не часта. Хоць і не надта далёка былі ягоныя Ушачы, Бычкі і Ваўчо, дзе жыла сястра, ад Мінска, хоць і была «Волга», але тая савецкая «Волга» часта ламалася, а галоўнае — на запраўках… не было бензіна. Ды і сам быт быў не радасны: хваробы, тавары па картках, суцэльны дэфіцыт, дарагавізна, дзяржаўная неўладкаванасць.***

***А ў кожным лісце, некалькі з якіх публікуюцца ніжэй, — клопат і неспакой за роднага чалавека, простыя жыццёвыя пытанні («Як здароўе?», «Ці не хварэеце?», «А як вы жывіцё? Ці ёсць хлеб і да хлеба?», «Ці ёсць на зіму дровы?») і нязменнае: «Пішы, Валічка»)…***

***Тэксты друкуюцца ўпершыню з захаваннем аўтарскага правапісу паводле рукапісных арыгіналаў з архіва Васіля Быкава.***



Справа налева: Валянціна, Васіль, Мікалай Быкавы і Рыгор Барадулін. Вёска Бычкі, 1990-я гг.

Добры дзень, дарагія нашы
Валічка і Саша[1]!

Пісьмо тваё, Валя, атрымалі, дзякуй табе. У нас усё болей-меней, я вось 2 тыдні прабыў у бальніцы — усё з той жа маёй хваробай. Даняла астма, а разам сэрца і іншае. Ну але троху падлячылі, цяпер лягчэй.

У астатнім жыццё ранейшае, як і ўсюды — дрэнна, але будзе яшчэ горш. Праўда, неяк выкручваемся. Добра, што не маладыя, ці многа нам трэба. Хлеб ёсць, што-нішто здабывае (Ірына[2]) да хлеба. Так і жывем. Адзенне старое, кашулі купляць не трэба. Данашваем.

У хлопцаў, канешне, справы горш. Галоўнае — дзеці. Малым[3] паесці трэба. Ды і вопратка на іх гарыць. Асабліва Жэня[4] — не напасешся на яго абутку і штаноў.

Сяргей[5] даслужвае, відаць, апошнія тыдні. Хутка скароцяць. Во яшчэ будзе праблема. Асабліва калі ў Менску насоўваецца масавае беспрацоўе.

Ну ды як-небудзь. Было горш. Кожнаму пакаленню свае беды.

А як вы? Як здароўе?
Пішыце нам.
На тым вас абнімаем.
Вашы Васіль і Ірына.

*26 сак[авіка] 1992 г.*

Добры дзень,
дарагія Валічка і Саша!

Сёння атрымалі вашу пасылку, як я яе адкрыў, дык Ірына ледзь не расплакалася ад удзячнасці да цябе, Валічка, асабліва не так за сала, як за бульбачку, капустку і морквачку. Кажа: а я толькі збіралася ісці на базар, а тут такая прыгажосць у хату. Дзякуй вам за тое. Але не думайце хоць, што ў нас ужо няма чаго есці, — ці многа нам двум трэба. Ем больш я, Ірына зусім не ешчая, ёй болей каб бульбачкі… Ды як-небудзь, авось не памром з голаду.

Ну а ў астатнім — як-небудзь. Здароўе так сабе, праўда, горш, калі снег ці туман, тады душыць астма. Але можа ж настане цяпло і вясна прыйдзе. Павінна ж прыйсці.

У хлопцаў усё больш-менш, Сяргей рыхтуецца зняць пагоны, але ўсё нешта цягнуць, толькі марнуюць час.

Будзьце здаровенькі.

І віншуем вас са святамі — Вялікаднем, Першамаем, Юр'ем.

Пішыце нам. А пасылак пакуль не шліце — ашчаджайце сабе.

Абдымаем вас.
Васіль і Ірына

*23 красавіка [19]92 г.*

Добры дзень, дарагія нашы
Валічка і Саша!

Во і скончылася лета, пачынаецца ранняя восень. Пайшлі дажджы, калі яны ўжо непатрэбныя. Але можа хоць прытушаць пажары. А то ў Мінску на прыканцы лета ўжо не было чым дыхаць ад дыму і гары. Гарэлі лясы, гарэлі тарфянікі. А цяпер дык стала халаднавата, мокра…

Добра, аднак, што хоць на сконе лета я сабраўся з'ездзіць на Ушаччыну, цяпер, мабыць, не скора з'ездзіш — вельмі цяжка з бензінам. Тры разы ездзіў на бензазапраўку і марна. Сёння ўстаў у 5 раніцы і паехаў. Але чарга даўжынёй з вярсту, не стаў станавіцца. Хутка, мабыць, не будзе на чым і з'ездзіць на дачу. Непатрэбнай стане і дача, і машына. Ды й за астатнім чэргі такія, што не станеш. Нельга ўзяць цукар па картках. Ужо некалькі месяцаў не бяром гарэлку. Такое настала жыццё.

У хлопцаў усё такое ж. Сяргей доўга звальняецца, але, мусіць, у гэтым месяцы ўрэшце развітаецца з арміяй. Настане праблема з работай. Асабліва калі без прафесіі. Ды цяпер усюды скарачаюцца штаты, звальняюцца работнікі. У Мінску ўжо тысячы беспрацоўных…

Учора званіў у Гародню. Вася[6] скончыў водпуск, прыступіў да працы. Малы Васілёк зламаў ножку (у двары, гулялі з нейкай арматурай), цяпер ляжыць дома з загіпсаванай нагой. Жэня пачаў вучобу. Але вучоба яму нешта трудна даецца, Таня[7] ўсё скардзіцца. Ды што зробіш? Хлопчык ён харошы, ласкавы, але, мусіць, здольнасцяў абмежаваных. Трэба з гэтым прымірыцца. Толькі бацькам хочацца большага…

У нас усё больш-менш. Канешне ж, не галадаем, на двох не шмат трэба. Але Ірыне прыходзіцца пакруціцца. Праўда, яна дужа рухавая, бегае, круціцца. А я ўжо сяджу дома. Працаваць — не надта працую, — няма жадання. Выдаю старое (патроху), да новага не ляжыць душа. Здароўе цярпімае. Невядома, як будзе далей.

А як вы? Як здароўе і жыццё? Пішы нам, Валя.

На тым — усяго вам найлепшага. Абдымаем вас —
вашы Васіль і Ірына.

*10 верасня [19]92 г.*

Добры дзень,
дарагія нашы Валя і Саша!

Даўно ўжо не пісаў вам, усё збіраўся пад'ехаць, ды насыпаліся справы, а пасля задажджыла. Хацелася б добрага надвор'я, каб хоць без дажджу. Але сёлета, мусіць, усё лета дажджлівае. У нас ліе кожны дзень…

Жыццё нашае так сабе, як і ўсюды. Нічога добрага. Жывем на пенсію, іншых даходаў амаль няма. Але нас двое, нам хапае. Зноў жа Ірына, як мурашачка, цэлы дзень у клопатах, бегае, здабывае. І валачэ дамоў. Каб мяне пракарміць. А я дык ужо калаю яе: ці многа мне трэба! Хлопцам трудней — Сяргей у гэтае лета перайшоў ужо на другую работу, але заробкі малыя, у асноўным пенсія. Ды Сярожка[8] нешта падупаў здароўем, прастуджваецца, бранхіт, кашаль. У Васі таксама не густа з грашамі. Толькі што вярнуўся з водпуску — ездзіў зноў на Кольскі паўвостраў, лавіць рыбу. Злавіў адну (сёмгу), але, казаў, вялікую.

На машыне цяпер не дужа раз'ездзішся — бензін (камерцыйны) па 250 руб. літр. І таго няма. А калі ёсць, чэргі ад раніцы да вечара. Я два разы стаяў, ды не хапіла. Купіў каністру 20 л. за 5 тысяч. Гэта і ўсё за лета. Вася таксама сядзіць без бензіну. У іх яшчэ горш — няма і камерцыйнага…

Во так і жывем.

Ну але як-небудзь пад'едзем. Можа, у жніўні. Мне яшчэ трэба з'ездзіць у Гродна…

А як вы жывіцё? Як здароўе? Ці ёсць хлеб і да хлеба?
Пішы, Валічка.
А пакуль — здароўічка вам.
Абнімаем.
Вашы Васіль і Ірына.

*16 ліпеня [19]93 г.*

Добры дзень, дарагія
Валя і Саша!

Даўно не пісаў вам, зусім заматаўся перад юбілеем[9] і ў часе яго. Дзякуй вам за віншаваньні і за пісьмо, якія атрымаў якраз напярэдадні. Цяжка было з гэтым дурным юбілеем, даймалі тэлевізія, журналісты ды і сябры таксама. Ну але цяпер усё ззаду. Ды і надвор'е палепшала. А то 19-га наладзілі сьвята ў скверы, пад даждцом, увогуле ўсё было добра, сабраліся добрыя людзі, гаварылі, выступалі, сьпявалі і гралі. І ў мой гонар, і ў гонар Тройцы. Горш, што мы з Ірынай якраз на гэты час прыхварэлі — нейкі вірусны кашаль, як грып. Ірына і цяпер кашляе, як авечка ў хляве. З гэтай прычыны нікога не клікалі ў дом, нічога не ўстрайвалі. Можа, калі паправіўшыся.

Унук Сярожка скончыў школу, учора быў выпускны вечар, будзе паступаць у Гродзенскі ўніверсітэт. Так што ў гэтым іх галоўны клопат. Вася гадуе сыноў, жонка Таня паехала на госьці да сястры ў Ізраіль, якая туды перасялілася гадоў тры таму з мужам-яўрэем. Я збіраюся, калі дасьць Бог і дазволіць здароўе, у ліпені наведаць Ушаччыну. Не ведаю толькі, калі канкрэтна.

Вельмі жадаю вам добрага здароўя. І пішы нам, Валічка.
Абнімаю — Васіль.
Ірына таксама.

*27. VI-[19]94 г.*

Валічка,
дарагая мая сястрычка!

Як ты там? Як сябе адчуваеш? Як здароўічка наогул? Увесь час, як ты выйшла з бальніцы, чакаў твайго пісьма з Ушачы, ды не дачакаўся. Мусіць, неяк табе дайсці да пошты? Ці, можа, ляжыш ты? Вельмі я непакоюся за цябе, мілая сястрычка…

Вось якраз едзе ў Вушачу Рыгор Барадулін, і я перадаю з ім гэта пісьмо. І трохі грошай табе. Ірына дужа хоча ведаць, што табе цяпер трэба, пасля аперацыі. Можа б мы як даслалі якую пасылачку…

Як у цябе дома? Ці цёпла? Ці ёсць дровы? Як з харчаваннем? Напішы нам, калі ласка…



Васіль Быкаў з унукам Сяргеем, сынам Сяргеем і нявесткай Таццянай

Заканчэнне на стар. 7 »

[1] Муж Валянціны Уладзіміраўны Быкавай.
[2] Ірына Міхайлаўна Быкава, жонка пісьменніка.
[3] Унукам Васіля Быкава.
[4] Унук Васіля Быкава.
[5] Старшы сын Васіля Быкава.
[6] Малодшы сын Васіля Быкава.
[7] Жонка Васіля Васільевіча Быкава.
[8] Унук Васіля Быкава.
[9] 19 чэрвеня 1994-га Васіль Быкаў адзначаў сваё 70-годдзе.

# Васіль БЫКАЎ: «Дажыць бы да вясны...»

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6**

У нас усё па-ранейшаму. Здароўе памалу здае, мала яго засталося і ў мяне... І лёгкія, і сэрца...

У хлопцаў усё патроху. Сярожка прыязджаў на канікулы з Гродна. Сёння паехаў. У Васіля патроху растуць хлопцы. Ужо і малы Васята пайшоў сёлета ў школу. Вучыцца не дужа любяць. Затое заядлыя рыбакі. Як бацька.

Валічка, напішы!

А пакуль што хоць Рыгору перакажы, як ты?

Будзь здаровенькая,
папраўляйся.

Дужа абдымаем цябе
Васіль і Ірына.

*10 лютага [19]95 г.*

Добры дзень, дарагія
Валічка і Саша!

Усё чакаў твайго, Валічка, пісьма, хацеў ведаць, як ты з'ездзіла ў Полацк, што табе сказалі дактары? Як ты пачуваешся цяпер? Званіў у Бычкі, Тоня сказала, што вы прыязджалі, што ты быццам — нічога. Але як на самой справе? Усё ж табе трэба цяпер дужа асцерагацца, не паднімаць што цяжкое. Ці палучаеце табе, як раілі дактары? А як з лякарствам? З харчаваннем? Ці дачакалася ты малачка ў Сазонаўны[10]? Перадавай ёй наша прывітанне.

У нас усё па-ранейшаму, дажылі да вясны. Хаця вясна сёлета лянівая, халодная, ніяк не дачакаешся цяпла. Усе хварэюць на нейкі дужа кепскі грып, хварэе Таня Сяргеева. Нас пакуль што мінае. Але ці надоўга? Эканамічнае жыццё цяпер усюды аднолькавае: цэны растуць, грошы абясцэньваюцца. Жывем у асноўным на пенсію... Таня Сяргеева працуе яшчэ, а Сяргея звольнілі, так што без працы. Палучае невялікую пенсію, з таго і жывуць. Сярожка вучыцца ў Гродні.

Пішы, дарагая сястрыца, галоўнае пра сваё здароўе. Можа, трэба якія лекі, дык паспрабуем тут дастаць. Можа, грошы? Чым памагчы табе?

А пакуль што абнімаем,
дужа жадаем як найхутчэй папраўляцца.

Твой брат Васіль.
Ірына таксама.

*25 сакавіка [19]95 г.*

Добры дзень, дарагія
Валічка і Саша.

Ну во мы і дома. Даехалі добра. Некалькі разоў спыняліся, Ірына спрабавала знайсці ягады (маліны), і праўда, набрала кубачак. Іншых прыгодаў не было, бензіну хапіла, што бралі з сабой, каля Лепеля пералілі з каністры. Дома быццам усё ў парадку, хаця на дачы яшчэ не былі, не ведаем, што там. Сёння мяркуем зьезьдзіць. Гэта 10 км ад Менска.

За гэты час, як мы езьдзілі, і ў Менску прайшоў дождж, казалі, з бурай. І зноў зьбіраецца.

Усё думаю, як табе, Валічка, жывецца. Каб хоць здароўічка, а то ты такая змарнелая, худзенькая. Не папытаўся: ёсьць хоць апетыт? Дзякуй Сазонаўне за тое, што яна да цябе цёпла ставіцца. Перадай ёй нашыя з Ірынай самыя найлепшыя пажаданкі. Хай як-небудзь трымаецца.

І ты трымайся, Валічка.

І пішы нам. Хоць патрошку, але часьцей.

На гэтым мы вас абдымаем і дужа жадаем вам лепшага здароўічка. І лепшага жыцця. Калі толькі магчыма.

Вашыя Васіль і Ірына.

*4 ліпеня 1995 г.*

Добры дзень,
дарагія Валічка і Саша!

Тваё, Валічка, пісьмо атрымаў, дзякуй табе. Сам трохі затрымаўся з адказам. Ну але ўсё ў нас па старому: жывем, старэем. Дажылі да зімы — каторы дзень ляжыць снег, марозна. Пачынаецца сезон праступ і хваробаў — праўда, мы пакуль што не хварэем, але многія знаёмыя ўжо ляжаць з грыпам. Ірына патроху ачунівае, хоць, канешне, яшчэ адчувае аперацыю. Аперацыя ў яе была на кішках — нешта адбылося, баяліся, што будзе горш. Але, здаецца, з дапамогай Бога неяк перажыла.

Ну а ў астатнім — як і раней. Цэны растуць, пенсія замарожана. З кастрычніка павялічылася плата за кватэру — учора аднёс 240 тысяч за месяц. Далей будзе болей. Так і жывем. У гэтым сэнсе ўсё горшае...

У рабят таксама няма чым хваліцца. Сяргей памыкаўся па канторах (за 200 тыс. у месяц) ды пайшоў рамантаваць машыны. На сцюжы, у цеснаце. Ды яшчэ нада ездзіць за горад — кіламетраў за 10. Едзе ўранку, прыязджае гадзін у 10 вечара. Не ведаю, якія там у яго заробкі.

У Васі двое рабят — школьнікі, ён і Таня зарабляюць мала, прыработкі выпадковыя. Раней я памагаў, цяпер не маю такой магчымасці. Увосень яны прыязджалі ў Мінск на пару дзён. Але няма часу ды і дарага дарога. Калі на аўтобусе — 80 тыс. адзін білет з Гродна ў Мінск. Не дужа паездзіш. На сваёй машыне яшчэ даражэй.

Зрэдку званю ў Бычкі Тоні[11]. Быццам там усё таксама, як раней.

Ну а як вы, як здароўе? Ці папраівўся Саша? Як твой радыкуліт, Валічка?

Пішы нам.



З апошніх сустрэч. Васіль Быкаў з сястрой Валянцінай. Вёска Ваўчо

Прывітанне суседцы Сазонаўне — хай Бог дае ёй здароўя. І вам таксама.

А мы абдымаем вас.
Вашыя Васіль і Ірына.

*9 лістапада [19]95 г.*

Добры дзень,
дарагія Валічка і Саша!

Ну во ўжо і вясна на двары, у нас тае сьнег, хаця з ценявога боку яшчэ ляжаць гурбы. Ды і халаднавата. Але ўсё роўна цяпло настане, зазелянее траўка. І ажыве прырода.

А як у вас, як здароўечка? Вясна прынясе новы клопат — гарод, ці стане сілы абрабіць яго?

У нас пакуль што ўсё па-старому. Здароўе — больш-менш. Канешне, не тое, што было год 10 назад ці нават летась. А ў астатнім — як і ўсюды: жыццё пагаршаецца, люд бяднее. Жывуць, як і заўсёды, начальства і жулікі.

Рабяты мае таксама жывуць трудна. Сяргей зарабляе на рамонце, хаця ён жа не сьпецыяліст, так, хто колькі дасьць. Вася цяпер другі месяц у Мінску на курсах. Будзе да мая. Жыве ў інтэрнаце, часта забягае і звоніць. На выхадныя езьдзіць да сям'і. А білет у Гродна — 80 тысяч.

Ірына, як заўжды, круціцца паміж домам і магазінам. У магазінах цяпер ёсьць усё. Каб толькі грошы.

У Бычкі званю рэдка. Цяпер дорага.

Напішы, Валічка, як вы там? Галоўнае — як здароўе? Як Саша? Пара б яму падумаць пра сябе і сваё здароўе.

Віншуем вас з Вялікаднем.
Будзьце здаровыя.
Абдымаем —
Васіль і Ірына.

*9 красавіка [19]96 г.*

Добры дзень, дарагія
Валічка і Саша!

Ведаю, Валічка, ты чакаеш мяне, і я сапраўды збіраўся ўсё лета, але падвяло здароўе. Якраз у добрае надвор'е падхапіў нейкі вірус, з якога не магу вылезці дагэтуль. Цяпер лепей, тэмпература ўжо нармальная, але слабасць, пабальвае горла. Усё чакаю, калі выздаравею. Горш, што тым часам пачало псавацца надвор'е, сёння ўжо дажджы, але, можа, пад канец месяца ўсё неяк абыдзецца, і я пад'еду.

А ў астатнім усё па-ранейшаму. Ніякіх змен да лепшага няма, але не было б да горшага. У хлопцаў таксама. Як-небудзь жывуць, перабіваюцца. Унукі тым часам растуць.

Вось такія справы.

А як вы? Як здароўечка? Калі, можа, будзе час, напішы хоць кароценька, Валічка. А то ўжо даўно ад вас нічога не было.

Неяк званіў у Бычкі, брат Мікола быў у бальніцы.

На гэтым абдымаем.
Да сустрэчы.
Васіль і Ірына.

*14 жніўня [19]96 г.*

Добры дзень,
дарагія нашы Валічка і Саша!

Учора атрымалі тваё, Валічка, пісьмо, якое чакалі. Я ўжо думаў, ці не захварэла ты часам, цяпер такі цяжкі грып, у нас усе хварэлі. Я пакуль што трымаюся.

У астатнім усё без змен (і дзякуй Богу), не было б горш, а на лепшае нам ужо не разлічваць, лепшага мы не дачакаемся. Неяк трэба прызвычайвацца да таго, што ёсць. Хоць усё тое дужа нялёгкае...

У хлопцаў маіх таксама ўсё па-ранейшаму. Сяргей зарабляе ў асноўным з рамонту аўтамабіляў. Але работы не дужа многа. Зімой амаль увесь час сядзеў дома. Таня працуе ўсё там жа. Сярожка вучыцца сёлета ў Мінску.

У гродзенскіх рабят трохі горш, двое хлопцаў, не надта спакойна, Тані хапае клопатаў — і на працы, і дома. Вася многа працуе ў бальніцы — на дзвюх стаўках. Але ўсё роўна грошай малавата, не хапае на харчы. А тут — за кватэру, за электрычнасць, за газ і т. д.

Ну але ўжо, здаецца, блізка вясна. Сёння сонейка, праўда, з раніцы падмарозіла. Абы толькі здароўе, можа, дачакаемся зялёнай травы. У вас, на вёсцы, — клопат з агародам. У нас на дачы гарода амаль няма, увесь участак пад бярозамі (37 бяроз на ўчастку). Нічога пад імі не расце, а ссякаць шкода — харошыя дрэвы, прыгожыя. І цянёк у спёку. Зноў жа, я слабы работнік, Ірына таксама. Хоць яна дужа рупіцца над прадуктамі. Але, я думаю, што лепей не трэба.

У Бычкі часам званю. Мікола[12] неяк трымаецца, а ў Тоні баліць нага. І здаецца — дужа.

Пішы, Валічка.
І вельмі жадаем вам здароўя і цёплай вясны.
Абдымаем.
Ваш Васіль і Ірына.

*6 сакавіка [1997 г.]*

Добры дзень,
дарагія нашы Валічка і Саша!

У нас на небе ўжо сонца і, здаецца, грэе. Ці, можа, гэта толькі здаецца. Але ўжо заглядвае і ў наша акенца.

А ў астатнім усё па-ранейшаму. Праўда, Ірына добра прамучылася з зубамі, але вырвала, цяпер трохі лягчэй. У мяне таксама розныя дробныя праблемы са здароўем. Хлопцы таксама перахварэлі на грып. Сярожку-меншага, апроч таго, ноччу зьбілі — да сатрасеньня мозгу. Але ўжо акрыяў, ходзіць на вучобу. Нядаўна на пару дзён прыязджаў Вася з Гродні. Па сваіх медыцынскіх справах. Пераначаваў і паехаў.

А мы, Валічка-сястрыца, у пятніцу 3 красавіка ляцім з Ірынай у Швецыю, на адпачынак да мая-месяца. Запрасілі шведы. За іх кошт. Ірына нідзе не была за мяжой, хай паглядзіць. Што па мне — дык я б лепш сядзеў дома. Тым больш вясной.

Калі толькі не падгадзіць пагода.

Вось такія справы.

Пасылаю, Валічка, трохі грошай.

Вельмі жадаем вам здароўічка і посьпеху на гародзе. Усё пасеяць, пасадзіць. Хай расьце.

Абы было цёпла.

Як вернемся — я напішу. Але гэта будзе ў маі.

На тым абдымаем.
Вашыя Васіль і Ірына.

Прывітаньне Сазонаўне. Як яна там?..

29 сакавіка [19]98 [г.]

Добры дзень, дарагія
Валічка і Саша!

На гэты раз пішу з Менска, куды на днях прыехалі, пабудзем тут да канца тыдня і зноў паедзем туды ж[13]. Тут некаторыя справы, якія за гэтыя дні ўладкую. Хацеў зьезьдзіць у Гродна, але ўжо не пасьпею. Цяпер ужо не ведаю, калі прыеду, відаць, зімаваць прыдзецца там.

Званіў у Бычкі, там хварэе брат Мікола, ляжаў у бальніцы — не ведаю, ці вядома тое табе, Валічка. Тоня таксама прыхварэла.

Пасылаю табе, сястрыца, трохі грошай і гэтыя во канверты, каб ты мне напісала туды.

Здароўе маё так сабе, хваліцца няма чым.

А як тваё здароўе?

Казала Тоня, ты была ў яе і сказала чаго... Вельмі дрэнна гэта.

На гэтым будзьце здаровенькі, шчаслівай вам восені. І нехалоднай зімы.

Абдымаю — Васіль.
Ірына таксама.

*7 кастрычніка [19]98 г.*

---

[10] Сяброўка і суседка Валянціны Быкавай.

[11] Жонка роднага брата Васіля Быкава Мікалая Уладзіміравіча.

[12] Родны брат Васіля Быкава; жыў у Бычках Ушацкага раёна.

[13] Васіль Быкаў па запрашэнні Фінскага ПЭН-цэнтра ў той час жыў у Фінляндыі, куды пераехаў разам з жонкай у чэрвені 1998 года.

# Васілёва дарога

Валянціна БЫКАВА

## Бацькі: мама з Заходняй, тата з Усходняй

Бацька наш Уладзімір Фёдаравіч Быкаў нарадзіўся ў 1888 годзе ў вёсцы Бычкі, дзе і пражыў усё жыццё. У яго былі два браты і дзве сястры, усе яны жылі ў суседніх вёсках. Адну сястру ў 1932 годзе разам з мужам раскулачылі і выслалі ў Сібір, другую сястру не зачапілі, але яе мужа таксама рэпрэсавалі.

Бацька служыў у царскай арміі ўнтэр-афіцэрам, быў даволі адукаваны, закончыў чатыры класы польскай школы. Падчас першай германскай вайны трапіў у палон, два гады працаваў у баўэра ў Германіі. Успамінаў, што жылося там някепска, гаспадар добра карміў. Вярнуўшыся дахаты, ажаніўся з вясковай дзяўчынай. Але пражылі яны мала — жонка памерла пры родах, не выжыла і дзяўчынка-немаўля.

Праз некалькі гадоў бацька ажаніўся ў другі раз — на нашай маме Ганне Рыгораўне. Яна жыла таксама ў Бычках, была ўдавой — яе першы муж паехаў на заробкі ў Расію і там прапаў. У мамы ад яго была дачка, якая памерла, маючы гадоў сямнаццаць. Мама жыла са свёкрам і свякроўю, якая была зусім сляпая, ёй патрэбны быў штодзённы догляд. Калі і свёкар занядужаў і не было каму працаваць на гаспадарцы, мама ўзяла бацьку ў прымакі.

Бацька і маці пражылі ўсё жыццё вельмі дружна, ніколі не лаяліся. Бацька дапамагаў маме даглядаць свойскую жывёлу, пакарміць карову і свіней — была яго работа. Бывала, мама яшчэ спіць, а ён падхопіцца досвіта, абярэ бульбу і надзярэ на тарцы, каб потым хутчэй было зварыць клёцкі.

Мама была родам з Заходняй Беларусі, з Глыбоцкага раёна. Прыехала ў Бычкі, а бацькі яе засталіся за мяжой, у Польшчы. Мама некалькі гадоў не бачыла іх, не ведала, ці хоць жывыя. У 1939 годзе прыйшла Чырвоная армія, Заходняя Беларусь была далучана да БССР, але мяжа (гэта кіламетраў сем за Кублічамі) засталася, яе па-ранейшаму ахоўвалі памежнікі, нікога не пускалі. Мама патаемна прабіралася праз лес, каб наведаць брата (бацькі паўміралі ўжо).

А ў нас у той час быў голад, як мы яго перажылі — сама не ведаю. Хадзілі па палях, шукалі мёрзлую бульбу, летам збіралі розную ядомую траву, шчаўе. Ведаючы пра гэта, дзядзька перадаў маме вялікі кулёк мукі і бараноў кумпячок. Гэта і Васіль любіў успамінаць, якой смачнай была тая бараніна.

## Бацьку падазравалі ў шпіянажы

У Кублічах была савецкая памежная камендатура, з яе прыязджалі некалькі разоў да бацькі, дапытваліся, як часта ён бывае у цесця ў Польшчы — падазравалі ў шпіянажы. Бацька аднекваўся, мы вельмі баяліся, што яго арыштуюць, але, дзякуй Богу, абышлося.


Васіль Быкаў з бацькамі, стрыечным братам Іллёй і сястрой Валянцінай. 1960-я гг.

У вёсцы тады часта адбываўся хапун, і многіх сялян павывозілі цэлымі сем'ямі. Сярод вяскоўцаў быў наводчык, які падказваў, каго хапаць.


«Хата, у якой нарадзіўся». Малюнак Васіля Быкава

Калі быў арганізаваны калгас, усё абагулілі. І быў голад, і не было чаго есці, і грошай не было. А бацька якраз пачаў будаваць новую хату, бо ў старой, сырой і халоднай, з цаглянай падлогай, ужо немагчыма было жыць. Улады не давалі добрага лесу на хату, выпісалі танкаватае бярвенне, у калгасе было не дамагчыся каня.

Бацька, вечны яму супакой, быў вельмі працалюбны і майстар на ўсе рукі. Усё рабіў сам — і вокны, і дзверы, і столь. Праўда, і новая хата цяпла не трымала, тады бацька абмазаў сцены глінай і ашаляваў дошкамі. Іх таксама давялося пілаваць самому. З дошак нашчапаў і дранкі на страху. Усё гэта рабіў урыўкамі, пасля працы ў калгасе, куды ганялі на працу, не даючы выхадных.

Перад самай вайной, калі старшыню калгаса мабілізавалі ў войска, ён на сваё месца парэкамендаваў бацьку, які браць на плечы старшынёўскі груз не хацеў, але што паробіш… Старшыняваў да прыходу немцаў. Пры іх калгаснае дабро і скаціну раздалі людзям, зямлю парэзалі на шнурочкі і таксама раздалі. Тады жылося някепска — тым, хто не ленаваўся працаваць. Сеялі і жалі свой хлеб, былі і коні свае, і каровы, і свінні. Немцы нас не чапалі, толькі ўзімку збіралі цёплае адзенне — кажухі, валёнкі. Пакуль у 1943 годзе не з'явіліся партызаны, вось тады пачалося…


«Супрацьпаветраная абарона ў Кублічах». Малюнак Васіля Быкава

## Вайна і блакада

У Кублічах стаяў нямецкі гарнізон, партызаны напалі на яго, вывезлі ў лес каменданта і расстралялі некалькі сем'яў — за сувязь з немцамі. Сям'ю ветэрынара і фельчара, яшчэ кагосьці.

Партызаны часта наязджалі ў нашу вёску і стаялі падоўгу, тыдзень і больш. Амаль кожны вечар ладзіліся вечарынкі, быў свой гарманіст, і нам, дзяўчатам, было весела. Электрычнасці не было, то мы прыносілі з дому пук лучын і палілі ўсю ноч, асвятляючы танцы.

Але жылося цяжка, удзень абіралі немцы, а ноччу партызаны. А калі Ушацкі раён быў канчаткова вызвалены, то партызаны адкрыта стаялі па вёсках, забіралі адзенне, абутак, а людзі былі вымушаны карміць іх. Аднаго разу прыехаў цэлы атрад нібыта смаленскіх, дык у нас забралі ўсё, што знайшлі, бацькаў кажух, валёнкі, зерне ўсё выграблі. І каня забралі, і маладую карову, якая незадоўга перад гэтым у нас з'явілася. Перад вайной карова ў нас была, але здохла — не было чым карміць. І мы некалькі гадоў сядзелі без малака.

А потым пачалася блакада, немцы выбілі партызан і паставілі непадалёку свой гарнізон. Вельмі страшна было. Больш маладзейшыя, і я ў тым ліку, разам з партызанамі кінуліся адступаць. Дайшлі да чыгункі, дзе ў лесе трапілі пад артылерыйскі абстрэл. Потым немцы сталі той лес прачэсваць і страляць усіх падрад — партызан і цывільных. Многа людзей загінула, але мне пашчасціла, дзякуй Богу, вярнуцца дамоў.

Потым немцы наязджалі ў вёскі і ўсё вымяталі з хат — і адзежу, і прадукты. А дзяўчат забіралі ў лагер у Вухвішчы недалёка ад Ушач. Аднаго разу наскочылі і сабралі ўсіх, каго засталі дома. Мы з адной дзяўчынай схаваліся ў прыдарожных кустах. А немцы якраз па той дарозе гналі дзяўчат, і адна з іх нас выдала. Немцы наставілі на нас аўтаматы і далучылі да калоны.

Я прабыла ў лагеры месяц, капалі акопы, кармілі кепска. Мы са знаёмай дзяўчынай рашылі ўцячы з лагера, маладыя былі, смелыя. Канваірамі былі палякі, і яны не вельмі за намі сачылі. Выйшаўшы з лагера, мы пайшлі па дарозе праз лес і на бяду напаткалі двух конных немцаў. Яны нас абшукалі і адправілі на допыт да каменданта ва Ушачы. Канваір на кані, а мы перад ім пешшу, босыя.


Валянціна Быкава ў сваёй хаце ў Ваўчо. Фота Сяргея Шапрана

Пасля допыту і высвятлення, ці мы не маем сувязі з партызанамі, нас вярнулі ў лагер у Вухвішчы. Там мы прабылі, пакуль не стаў набліжацца фронт. Немцы пачалі адступаць, пастроілі нас у калону і пагналі перад сабой. Так дайшлі аж да Глыбокага, заначавалі ў нейкай вёсцы, у адрыне. Мы ўжо думалі, што нас расстраляюць, але абышлося, назаўтра пагналі далей. І я рашыла зноў уцякаць. Калі калона ішла паўз жыта, мы з яшчэ адной дзяўчынай шмыгнулі ў яго, баючыся, каб не пачалі страляць услед.

Прасядзелі ў жыце да вечара, потым нам адна жанчына паказала, у якім баку лес, дзе пахаваліся людзі з навакольных вёсак — цэлымі сем'ямі, нават з каровамі. Мы далучыліся да іх, прабылі там дзён тры. Увесь гэты час лес абстрэльвалі і нашы, і немцы. Потым немцы адступілі, і ўсталявалася цішыня. Тут пранеслася чутка «нашы ідуць!», і мы рванулі на дарогу. Глядзім, па ёй ідзе адзін наш салдацік, кульгаючы. Мы, дзяўчаты, яго ледзь з радасці не задушылі ў абдымках. Ён ледзь вызваліўся і кажа: зараз пойдзе многа салдат, дык вы іх абнімайце.

І праўда, неўзабаве на дарозе з'явілася і пяхота, і машыны, і танкі. Салдаты прыветна махалі нам, мы ім. Так мы дайшлі да Кубліч. Наша вёска засталася цэлаю, а суседнюю немцы спалілі.

Усю вайну мы ўспаміналі Васіля, не ведалі, ці жывы, плакалі, і бацька плакаў. Ён быў душою жаласны, і па мне плакаў, калі мяне забіралі ў лагер у Вухвішчы. Потым прыйшло ад брата першае пісьмо, што жывы-здаровы, ваюе. І зноў мы плакалі, але ўжо ад радасці. Я адпісала Васілю, што і мы жывы-здаровы, а то ён думаў, што нас ужо і на свеце няма.

А потым прыйшла «пахаронка» на яго. Дзякуй Богу, гэта была памылка, брат застаўся жыць.

Ён ваяваў, вызваляў Балгарыю, Румынію, Венгрыю, Аўстрыю, быў паранены, але ў руку, не цяжка. Падтрымліваў нас, кожны месяц слаў нам грашовы атэстат на 100 рублёў — на той час немалыя грошы. Помню, я хадзіла на кірмаш у Празарокі, купіла курыцу за 50 рублёў і 16 кілаграм гароху, на плячах прынесла дахаты. Мама купіла два вядры бульбы і пасадзіла пад рыдлёўку. Зерня нямнога пасеялі, бацька цялушку купіў, выгадавалі, праз тры гады мелі сваё малако, пачалі патроху разжывацца.

Заканчэнне на стар. 9 »

# Васілёва дарога

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 8

### Маленства Васіля

У дзяцінстве я добра помню, як Васіль яшчэ зусім малалетнім, гадоў шэсць яму было, стаў прасіць бацьку, каб той завёў яго ў школу, у першы клас. У той час школа была ў суседа ў хаце (цяпер там жыве мая братавая, Міколава жонка).

І вось бацька яго завёў, і столькі было радасці Васілю! Чытаць і пісаць ён навучыўся да школы, бацька навучыў. У школе тады не хапала пісьмовых прылад. Старэйшы Васілёў сябар зрабіў яму ручку з чараціны, у якую ўкладалася пяро. Той ручкай Васіль і пісаў. Вучыўся вельмі добра.

Я ў той час у школу яшчэ не хадзіла, гуляла дома ў лялькі, якія мы з сяброўкай рабілі з розных анучак, фабрычных лялек тады не было. І вось неяк Васіль паглядзеў, як мы цешымся сваімі лялькамі, і зрабіў нам больш падхадзяшчую — прышыў з палачак рукі і ногі, зрабіў валасы з лёну, атрымалася лялька — як жывая! Мы Васілёвай лялькай вельмі даражылі, хавалі за ікону. Сяброўка аднойчы, як мяне не было ў хаце, скрала яе і занесла дахаты. Колькі было ў мяне тады слёз!



«Дарога ў школу». Малюнак Васіля Быкава

А неяк мы з сяброўкамі ў дзяцінстве пайшлі купацца на сажалку, яна была недалёка за агародамі. Плаваць добра не ўмелі, толькі залезлі ў ваду, пакінуўшы адзежу на беразе. А хлопцы, таксама малалетнія, падгледзелі і пахавалі адзежу. З імі быў і Васіль. Мы вылезлі і голыя пабеглі дахаты. Бацька, як дазнаўся, адлупцаваў брата. Да гэтага і пасля гэтага ніколі ён нас не біў.

Аднойчы брыгадзір загадаў звозіць сена ў калгасе, і Васіль паехаў на кані па тое сена. Паехаў першы раз, раней ніколі не ездзіў. На павароце дарогі не справіўся з кіраваннем, і воз з сенам абярнуўся. Бацька хадзіў дапамагаць. Пасля таго Васіль перажываў, баяўся, што яго засмяюць.

Ён вельмі любіў коней, пасвіў іх, як прыходзіла чарга. І кароў пасвіў. Але зранку не хацеў уставаць, гаварыў, што нагам на пашы вельмі колка, а абуць не было чаго.

Калі Васіль хадзіў у чацвёрты клас, настаўнік на ўроку малявання паставіў на табурэтку вучня і загадаў намаляваць. Я пасля паглядзела ў Васілёвым сшытку — вучань выйшаў як на фатаграфіі, такі падобны! Помню, я вельмі здзівілася.



Валянціна Быкава. Бычкі, 2004 г.

А як хадзіў ужо ў Кубліцкую школу (7—8 класы), то намаляваў на палатне алейнымі фарбамі партрэт Леніна і павесіў на покуці поруч з іконай.

Аднаго разу зімой, як хадзіў у школу ў Кублічы, памарозіў быў пальцы на нагах. Надта ўжо кепскія былі абутак і адзенне. Бедна ўсе тады жылі, не хапала ні ежы, ні вопраткі. Неяк настаўнік Васілю як выдатніку ўручыў прэмію — чаравікі. На той час гэта была вельмі дарагая прэмія.

Помню, мама за яйкі ў нарыхтовачным ларку прыдбала некалькі бабскіх хусцінак — былі такія прыгожыя, у кветкі. І пашыла з тых хусцінак кашулю Васілю, лепшага матэрыялу ў крамах не было. Дык Васіль не хацеў тую кашулю адзяваць, гаварыў, што яна бабская, не падхадзяшчая яму.

Неяк Васіль у маленстве ўздумаў залезці на вішню, што расла ў агародзе. Зваліўся з вішні, моцна ўдарыўся і так пашкодзіў нагу, што бацька вазіў яго ў бальніцу.



«Наша лазьня». Малюнак Васіля Быкава

З чацвёртага класа Васіль вёў дзённік, запісваў усё. Неяк, калі брата не было дома, я знайшла тыя запісы (была надта цікаўная), і мы з сяброўкай пачалі чытаць. Мы знайшлі запіс пра тое, як Васілю спадабалася адна дзяўчынка-аднакласніца. Мы вылічылі па літарах — К. Н. Пазней прызналіся Васілю, і ён нас не лаяў, а толькі паглядзеў так сурова, што мы спужаліся і схаваліся на печы.

Аднойчы мы знайшлі сшытак, спісаны дробным Васілёвым почыркам. Там было нейкае апавяданне, добра не памятаю, аб чым.

Пачынаў ён пісаць і вершы, але хутка кінуў, нешта не пайшло ў яго. Помню, нават пасылаў свае вершы ў газету «Чырвоная змена». Увесь час бавіў за кніжкай, усю Кубліцкую бібліятэку перабраў.

У школе ў Васіля было вельмі шмат сяброў. Каля нашай вёскі быў невялікі хутар, некалькі хат, там жыў яго сябар. Васіль часта хадзіў да яго. Жыў на тым хутары і прыезджы з Ленінграда чалавек, у якога было шмат усякай літаратуры і газет. А я таксама любіла чытаць. І мне здаецца, што сярод тых газет была і «Наша Ніва», і Васіль яе чытаў.

У дзяцінстве мы з ім разам захварэлі на шкарлятыну, доўгі час не хадзілі ў школу. Я хутчэй паправілася, а Васіль неяк усё не мог аздаровіцца, усё кашляў, нікуды не хадзіў і часта прастуджваўся.

Васіль быў вельмі ціхім і паслухмяным хлопцам, слухаўся бацькоў, дапамагаў ім. Аднаго разу, недзе пад зіму, бацькі не было дома, а ў хляве ляжала вялікая горба выкапанай бульбы. І мама папрасіла брата перанесці яе ў хату, каб не памерзла. І ён адзін перанёс усю тую бульбу! Мама вельмі цешылася з гэтага.

А неяк Васіль зрабіў сабе драўляныя канькі, абабіў жалезам і хадзіў катацца на сажалку. Часам катаўся дапазна, і бацька хадзіў зваць яго дадому.

Пазней сам сабе і лыжы зрабіў, ездзіў на іх зімой у школу.

Самая лепшая гульня была — у вайну. Падлеткі рабілі з дрэва вінтоўкі, аўтаматы, гранаты і хадзілі ў лес, у гэтак званыя Гаі. Выпрошвалі ў мамы нітак — на правядзенне тэлефоннай сувязі.

Другіх гульняў у Васіля не было. А як падрос, дык нікуды не хадзіў, нават на танцы. Бывала, хлопцы клічуць на вечарынку, а ён адказвае — я лепш кніжку пачытаю. Чытаннем, бывала, так захапляўся, што сядзеў да ранку. Бацька прачнецца і гоніць спаць.

Аднойчы бацька нас з Васілём паслаў у краму па соль. Пайшла з намі і мая сяброўка. Тады ў нашай краме не было солі, і трэба было ісці ў суседнюю вёску за пяць кіламетраў. Купілі ды ідзём дахаты. І раптам на дарозе знаходзім цэлы мяшок солі — нехта, едучы на падводзе, згубіў. Мы з сяброўкай пацягнулі той мяшок у кусты, каб схаваць — такая знаходка! А Васіль загадаў вярнуць назад на дарогу, сказаў, што гаспадар мяшка, як зглядзіць прапажу, то вернецца і знойдзе.



Васіль Быкаў з маці Ганнай Рыгораўнай. Вёска Ваўчо, 1980 г.

Вось такі сумленны з маленства быў мой браток Васіль.

### Жыццё пасляваеннае: ад нішчымніцы да Зоркі Героя

Да пачатку вайны я закончыла шэсць класаў школы ў Кублічах і цешылася, што больш не трэба вучыцца. Вось такі дзіцячы розум. Але пасля перамогі зноў пайшла ў школу, у сёмы клас — Васіль угаварыў. Працавала ў калгасе рахункаводам, налічвала працадні калгаснікам. Калі арганізаваўся саўгас, ужо ў кантору не хадзіла, працавала ў брыгадзе.

Бацькі хадзілі на работу ў калгас. За працу нічога не атрымлівалі, залічваліся працадні, на якія восенню давалі зерне другога гатунку, неачышчанае, а таксама бульбу. Гэтак і жылі на нішчымніцы. Калгас быў бедны, не было ні кароў, ні коней. І нас, пяцёра дзяўчат, адправілі па каровы ў Германію. Там савецкія салдаты сабралі цэлы статак безгаспадарчых кароў — сто. І мы паўгода той статак гналі ў Беларусь! На жаль, да Ушачаў дайшла толькі палова статка. Усім дзяўчатам-пагоншчыцам абяцалі па карове, але так і не выдалі…

Пакуль разжыліся, нагараваліся ўдосталь. Бацькі згубілі здароўе, але ўсё роўна без працы не сядзелі. Па гаспадарцы патроху варушыліся. Помню, бульбу выараць каня няма, дык бацька віламі падварушвае, а маці зямлю разграбае, так цэлы палетак і выберуць.

Бацькі мае (вечны ім супакой) былі вельмі добрыя, сціплыя, працавітыя, лішніх слоў ад іх ніколі не пачуеш. Толькі па справе размаўлялі. У мамы душа была спакойная, спагадлівая, ніколі ні з кім не лаялася, у жаночых разборках не ўдзельнічала. Мы з Васілём такія ўдаліся па маме.

А якая яна майстрыца была, колькі выткала палотнаў, абрусаў розных узораў! Хлеб пякла вельмі смачны.

Бацька быў трохі шустрэйшы, любіў чытаць, пасля вайны выпісваў газеты, сам пісаў Васілю пісьмы на Далёкі Усход. Калі брат прыязджаў, яны любілі паразмаўляць пра палітыку. Бацька выпытваў, што за мяжой дзеецца, да гэтага ў яго была вялікая цікавасць. І браток мой, што да палітыкі, удаўся ў бацьку, гэткі ж шырокі кругагляд меў у думках.

Бацька памёр, маючы 82 гады, а мама дажыла да 96 гадоў. Памерла восенню 1984 года, калі Васілю ўручалі Залатую Зорку Героя Сацыялістычнай працы. Адбылося гэта ва Ушацкім РДК. Сабралася поўная зала людзей. Тады да мяне ў Ваўчо разам з Васілём заязджалі кампазітар Ігар Лучанок і спявак Яраслаў Еўдакімаў.

Апошні час мама жыла ў мяне ў вёсцы Ваўчо, я перавезла яе з Бычкоў ад брата Мікалая. Ён быў маладзейшы за мяне на пяць гадоў, але часта хварэў, меў слабое здароўе, кепска чуў. Калі жаніўся, купілі яму хату ў Бычках (Васіль дапамог).

Хавалі маму ўсім раёнам, дапамагалі і райвыканкам, і райкам, забяспечылі прадуктамі і транспартам. Прысутнічаў і сам старшыня райвыканкама, і трэці сакратар райкама. Пахавалі ў Бычках поруч з бацькам. Вельмі многа сабралася народу, кветак і вянкоў шмат прынеслі. Быў і Васіль з жонкай Ірынай Міхайлаўнай, і ўся радня.

У 1976 годзе я выйшла замуж за разводніка і пераехала да яго ў вёску Ваўчо. Жыццё з ім было нялёгкім, вельмі любіў выпіць, але не біўся.

Самая сумная падзея ў маім жыцці — смерць Васіля ў 2003 годзе. Памёр мой любімы браток. Ён быў для мяне самым дарагім, ён быў такім клапатлівым, любіў сваіх бацькоў і мяне не забываў. Была на яго пахаванні ў Мінску, на могілках страціла прытомнасць, «хуткая дапамога» выратавала…

# Васіль БЫКАЎ: «Мы яшчэ не наеліся чорнага хлеба праўды»

***Фрагмент гутаркі Юрася ЗАЛОСКІ з Васілём БЫКАВЫМ — пра ісціну, абагуленую ў мастацкай форме, гістарычную памяць, вайну, мараль і свабоду творчасці.***

**Васіль БЫКАЎ**: — Час цяпер такі, што трэба закансерваваць тое, што ёсць, — ад разбурэння самім часам. Таму што часы надыходзяць такія, калі і камуністычныя парадкі здадуцца ліберальнымі, бо пры камуністах хоць бачнасць нейкай дэмакратыі захоўвалася; хай не было сапраўднага росквіту культуры, дык хоць яна так не вынішчалася...

**Юрась ЗАЛОСКА**: — *Літаратура і мастацтва ў чарговы раз адступаюць перад напорам самога жыцця?*

— У чарговы раз...

— *А што цяпер чытаецца?*

— Некаторыя рэчы вельмі хораша кладуцца на душу. Гэта тыя, каторыя найменей атаясамліваюцца з літаратурай. Вот сведчанні, дакументы. Толькі што прачытаў кнігу Аскоцкага... Вот ляжыць, яшчэ не дачытаў, раман Кастуся Акулы — «Змагарныя дарогі».

— *І як ідзе чытанне?*

— Гэта — іншае. Я яго не разглядаю як раман, бо для мяне гэта найперш дакумент, сведчанне лёсу, інфармацыя, тут менш за ўсё прэтэнзіі на мастацкасць. І гэта якраз хораша, таму што я пазнаю сутнасць. Усё-такі гэта праблема нашай гісторыі. Тое, што мы называлі калабарацыянізмам і калабарантамі і адпаведна да іх ставіліся, як цяпер бачыцца, было куды больш складаней. Існавалі і калабаранты, і калабарацыя — даволі значныя на Беларусі. Я заўсёды пра гэта гаварыў. Калі ў Беларусі было каля мільёна партызан, і яны ваявалі, дык з кім жа яны ваявалі? Гэта камуністы рабілі такую падмену, што, маўляў, партызаны ваявалі быццам з немцамі. На самай справе якія немцы — у той час як фронт стаяў пад Масквой?.. Немец быў у лепшым выпадку адзін на раён, у раённай адміністрацыі. З кім жа тады ваявалі шматтысячныя партызанскія арміі? Зразумела, з кім — з паліцэйскімі фармаваннямі, каторыя, як і партызанскія злучэнні, рэкрутаваліся з беларусаў альбо з суседзяў — літоўцаў ці ўкраінцаў.

Гэта ж атрымалася абсалютна спантанна — Хатынь. Трагедыю Хатыні спрабавалі аднесці на рахунак немцаў, а папраўдзе яе спаліў канкрэтны 118 украінскі паліцэйскі батальён. Дык вось, што датычыць калабарацыі: прыблізна столькі ж, колькі партызан, было і калабарантаў. І тое, што тут адбывалася, мела ўсе прыкметы грамадзянскай вайны. Нямецкія рэгулярныя войскі ў гэтую справу ўлезлі тады, як фронт падышоў к Полацку. Тады яны акружылі і зліквідавалі ўсю партызанскую зону. «Прарыў» — гэта эўфемізм: разгром быў заменены на «прарыў». Які прарыў? Прарваліся рэшткі...

Немцы ўмелі гэта рабіць, гэта не Чачня, партызаны для іх не ўяўлялі ніякай небяспекі... Яны іх акружылі і задушылі меней чым за месяц. Рэшткі, каторыя прарваліся з блакады, пасля хаваліся ў Селіцкай пушчы, я пра гэта пісаў. У густых хвойках яны прывязваліся рамянямі да вяршалін і там сядзелі. Ды немцы пусцілі сабак, каторыя аблайвалі дрэвы. Немец падыходзіў і даваў уздоўж ствала некалькі чэргаў...

Пасля вайны, у 1947 годзе, калі я прыязджаў на радзіму, на тых хвойках яшчэ бялелі партызанскія косці, абдзёўбаныя вараннём...

Вот чым мне цікавая кніга Кастуся Акулы. Я адкрываю ў ёй многае, таму што ў часе вайны тут не быў. Я бачу ў гэтым рамане найперш дакумент, сведчанне, хоць і разумею, што ў жыцці нешта магло быць трохі інакш. Тым не менш, калі гэта напісана падрабязна і шчыра, дык шмат што чытаецца між радкоў, у падтэксце.

— *Напэўна, для стварэння мастацкага твора не абавязкова ўдзельнічаць у падзеях? У Вас жа — шэраг партызанскіх аповесцей...*

— Мабыць, не абавязкова.



Васіль Быкаў

— *А што Вам давала штуршок, можа быць, эмацыянальны, каб нейкую ісціну абагуліць у форме мастацкага твора?*

— Быў нейкі імпульс, які быў галоўны, а пасля ўжо з'яўляўся нейкі антураж, нарошчваліся падрабязнасці раманнага плана...

За партызанскую тэму я ўзяўся позна, доўгі час пра гэта не пісаў, хоць і жыў у Беларусі. Усё, звязанае з партызанкай, было вакол, і яго было даволі. Партызанскае асяроддзе, так бы мовіць, працягвала існаваць у сваіх апасродкаваных наступствах. Але я сябе адчуваў проста недастаткова інфармаваным, каб пісаць на гэтую тэму. Я пісаў пра іншае. І ўзяўся я недзе на пачатку 70-х, калі ўсе аўтары-партызаны ўжо выказаліся, перайшлі да іншых тэм. Тады я ўбачыў, што там засталося шмат чаго цікавага і значнага, і ўзяўся за гэтую тэму, напісаў «Круглянскі мост», іншыя рэчы...

Удзельнічаць у падзеях не абавязкова, хоць і пажадана. Але найбольш пажадана, каб гэта было усё-такі ў магчымай меры адлюстраваннем гістарычнай праўды, а не проста нейкім аўтарскім самавыяўленнем з нагоды чагосьці. Безумоўна, гэта рызыкоўная рэч.

Як я цяпер разумею гэтую справу, зусім не абавязкова рэканструяваць тагачасную атмасферу. Можа быць, важней іншае. Кажуць, Талстой не быў удзельнікам вайны 1812 года. Але ж гэта — Талстой. Талстой мае права нават на скажэнне гісторыі, на памылку, бо для чалавецтва гэта важна, таму што гэта звязана з Талстым. Калі Талстой памыляўся, то яго памылкі, можа быць, нават важней за нейкую ісціну, або, прынамсі, таксама важныя. Аднак гэта не значыць, што кожны чалавек мае права на такую ж памылку — кожны не мае, таму што памылка кожнага ёсць проста памылка, а памылка Талстога — гэта ёсць акт, каторы мае светапоглядное значэнне для культуры наогул...

— *Гэта значыць, што першасны мастакоўскі імпульс як бы не звязаны ні з асабістым вопытам, ні з жыццёвымі перажываннямі, гэта нешта іманентнае?*

— Ну вот я скажу наконт першай сваёй «партызанскай» аповесці. Была такая кніжка, выдадзенная пасля вайны, каторая, мабыць, і не перавыдавалася, — здаецца, «Ніколі не забудзем» называлася. Гэта — расказы дзяцей, сведкаў і ўдзельнікаў вайны. Там мне запомніўся адзін расказ — пра тое, як адзін хлопчык вельмі прасіўся падарваць мост, і яму партызаны дазволілі. Ён яго падарваў, але сам загінуў. Мне тады падумалася, што разумныя рэдактары такіх рэчаў не друкавалі б... Мне здалося, што гэта абсалютна амаральна — рызыкаваць жыццём іншага, у той час як гэта вызваляе ад рызыкі жыццё ўласнае.

Ды ў нас мараль вядома якая — маралі не было наогул, асабліва што датычыць вайны. На вайне гэта было спрэс, і на фронце, і ў партызанах, і дзе заўгодна: той, хто аддаваў загад, не толькі не рызыкаваў, але яшчэ і адводзіў рызыку ад сябе. На гэтым будавалася ўся ваенная працэдура. Генералы, распрацоўваючы аперацыю альбо аддаючы загад, разлічвалі на поспех, і гэты поспех забяспечваў ім кар'еру. Іншая справа, калі выходзіла няўдача... Якім коштам усё гэта дасягалася? Было ж шмат выпадкаў, дый што выпадкаў — гэта было спрэс, — калі людзі, каторыя выконвалі загад, — гінулі. І тое было вядома загадзя — што яны загінуць. Але, тым не менш, яны выконвалі загад... У нас праблема загаду ніколі не абмяркоўвалася. У нас прынята ў парадку рэчаў, што калі ёсць загад, дык ён павінен быць выкананы; не мае значэння, ці гэты загад важны для лёсу вайны, ці гэта капрыз п'янага генерала...

Дык вось я напісаў тады «Круглянскі мост», дзе, мне здалося, ставіцца вот такая праблема. І яна ж па-ранейшаму актуальная — цяпер, у мірны час. Памятаеце, была такая міфалагема — «в жизни всегда есть место подвигу». Гэтае «место подвигу» толькі ў таталітарным грамадстве «всегда есть». А на самай справе «подзвігам» заўсёды прыкрываліся невыгодныя рэчы. «Подзвігам», ахвяраваннем людскога жыцця выкупляліся чужыя памылкі ці нават злачынствы. Ці суадносіліся калі гэтыя дзве каштоўнасці — подзвіг у імя нечага і жыццё чалавека? Канечне, таталітарнай сістэме патрэбны былі подзвігі, патрэбна было выхаванне менавіта ў атмасферы гатоўнасці да подзвігу — але гэта не па-хрысціянску.

— *Такім чынам, для Вас важней заўсёды нейкая маральная ісціна?*

— Канечне, маральная ісціна. Пасля яшчэ важна, што амаль за кожным «подзвігам» стаяць злачынцы...

— *Гэта значыць, у Вас спярша ўзнікае самая агульная задума, а дэталі дадаюцца пасля, і невядома, чым можа скончыцца твор?*

— Не, я заўсёды ведаю, чым скончыцца твор.

— *?*

— Я не магу сказаць, што «ідэя» заўсёды першасная, і затым адно абрастае нейкім жыццёвым антуражам. Часам яна ўзнікае спачатку — ідэя; ідэй увогуле многа, але яна не знаходзіць пэўнага мастацкага ўвасаблення, застаецца голай ідэяй, голай думкай...

— *І тады пішацца публіцыстыка?*

— Відаць, так. А бываюць шчаслівыя выпадкі, калі ідэя знітавана з нейкім жыццёвым фактам, з эмпірыямі жыцця. Яна недзе там, у свядомасці ці пасвядомасці нейкім чынам пераварваецца і затым выяўляецца ў форме мастацкага твора, напрыклад, кароткай аповесці. Мне гэтая форма была найбольш даспадобы. Прычым, паколькі я прайшоў пэўную школу ў «Новом мире» Твардоўскага, мне важныя былі яго погляды і густы. Апроч таго, што ён быў вялікі расійскі паэт, ён быў яшчэ і мой рэдактар, і з яго думкай я вымушаны быў лічыцца. А ён паважаў жанр кароткай аповесці, не любіў доўгіх раманаў, тым больш раманаў з працягам; здаецца, апроч твораў Залыгіна і Цендракова нічога з гэтага шэрагу не надрукаваў...

Я асвойтаўся ў гэтым жанры. Гэта было блізка да майго густу. Я не меў задум і намераў, як некаторыя, пісаць беларускую «Вайну і мір». А многія з празаікаў пісалі шматтом'е...

— *На Вашу думку, старая формула «змест супадае з формай» — справядлівая?*

— Так, безумоўна.

— *Перад тым, як сесці за стол, Вы «выношваеце» твор?*

— Гэта натуральна. Гэта хіба ў шматтомных эпапеях, над каторымі ідзе доўгая, шматгадовая праца, у працэсе якой мяняюцца не толькі сюжэт і характары герояў, але і светапогляд самога аўтара, нельга нешта прадвызначыць. Калі я пачынаю пісаць твор, то ведаю яго канец.

— *Гэта падобна на тое, як пішацца паэзія: верш нараджаецца «ўнутрана» і затым адно заносіцца на паперу.*

— Гэтак жа і ў навелістыцы, кароткай прозе.

— *Дарэчы, ці захапляецеся паэзіяй, можа, спрабавалі пісаць вершы?*

— Не, паэзіяй я не захапляўся. Я люблю кароткія празаічныя рэчы. Для мяне ідэальны верш — тры страфы. Вот чаму, напрыклад, я лічу, што ідэальны гімн для Беларусі — «Магутны Божа» на словы Наталлі Арсенневай. Доўгія рэчы я не люблю. Выключэнне, хіба, толькі «Новая Зямля» Якуба Коласа, хоць яе прыцягальнасць, можа быць, не столькі ад паэзіі, колькі ад іншага чагось... У паэзіі і прозе для мяне вельмі важны лаканізм. Ёсць дзве сучасныя школы прозы — нямецкая і французская. Першая, нямецкая, вызначаецца незвычайным шматслоўем; вялікім лаканізмам — другая, французская. Я бачу, што апошнім часам у нас знайшла перайманне нямецкая школа прозы. Пішуць падрабязна і вельмі доўга. І ў нас, і ў расійскай літаратуры таксама.

— *Калі ўжо гаварыць пра беларускую літаратуру, то, напэўна, у ёй Вы маеце свае прыхільнасці. Каго б Вы маглі назваць?*

— Дасавецкі Купала, безумоўна, вельмі важны. Гэта — апостал беларушчыны, незалежна ад яго пазнейшых паводзінаў. Хоць пасля ён напісаў і фальшывыя рэчы — што ж, мы ж ведаем, як тады было жыць і пісаць — пісаў для паратунку, гэта ж адчуваецца ў радках і між радкоў. Але найбольш важна тое, што ён напісаў раней, з чыстым сэрцам, калі меў натхненне. Тое застанецца назаўсёды. Мы бачым усе яго светапоглядныя ўстаноўкі і грамадзянскія памкненні... Багдановіч, Колас, каторы пражыў больш і, безумоўна, зазнаў эвалюцыю... Можна растлумачыць і бачыць гэтую эвалюцыю.

Самае галоўнае, я лічу, — што творчасць усё ж такі павінна быць свабоднай. Калі пясняр свабодны, то ён змагаецца і гаворыць на поўную сілу. А калі ён у нейкім палоне — найбольш у палоне ва ўлады, — то яго творчасць становіцца сумнеўнай. Улада папросту распаўсюджвае яго дэкларацыі — палоннага, — але ўсе яны фальшывыя. Нават калі ён гаворыць «праўду», то яна не можа лічыцца за праўду, бо ён робіць гэта не як свабодны чалавек. Ён робіць гэта, накшталт як закладнікі ААН у Босніі кажуць у інтэрв'ю, што там ім хораша... Яны змушаны гэта казаць, каб ураташаць жыццё.

— *У гэтых адносінах маладое пакаленне ў беларускай літаратуры непараўнальна больш свабоднае, чым старэйшае.*

— Так, новае пакаленне больш свабоднае. Найперш яно свабоднае ў сваім выбары, бо мае́ такія магчымасці. Іншая рэч, як гэтыя магчымасці будуць рэалізаваны. Гэта ўжо залежыць ад іх саміх, ды і не толькі ад іх...

— *Значыцца, дэкларацыі французскіх экзістэнцыялістаў аб свабодзе творчасці — запавет для сучаснага мастака ці літаратара?*

— Экзістэнцыялізм — гэта важна... Я памятаю, як «Чуму» Камю Твардоўскі назваў «евангеллем дваццатага стагоддзя». Пасля я прачытаў гэты твор і ўбачыў, што гэта так... Сартр — некалькі іншая справа. А Камю я паважаю, гэта вялікі мастак і прарок. Толькі неяк усё гэта драматычна скончылася — з экзістэнцыялізмам. Што мае пачатак, павінна мець і канец...

— *Камю загінуў у аўтамабільнай катастрофе, а Сартр кінуў літаратуру і пайшоў выкладаць ці не марксісцкую філасофію ва ўніверсітэт...*

— Так, там яны маюць такі, я б сказаў, палітычны ці то філасофскі снабізм. Маюць такую патрэбу і такія магчымасці. Гэта ёсць у высокаразвітых нацыяў, у адрозненне, скажам, ад нашай. Мы яшчэ не наеліся чорнага хлеба праўды, каб дазволіць сабе ісці, скажам, у нетры Джойса. Усё гэта хораша, але — для снобаў. Для грамадства ж, каторае яшчэ не спазнала элементарную праўду пра сябе, праўду свайго існавання, — спасцігаць розныя шызафрэнічныя таямніцы не выпадае. Зрэшты, калі нехта такую патрэбу мае — калі ласка. Мне ж гэта проста нецікава...

— *Ці азначае гэта, што ў нашай літаратуры Вы дапускаеце нейкую перспектыву за рэалізмам?*

— Можа быць, калі наша грамадства далучыцца да еўрапейскай супольнасці, калі яно дасягне ў развіцці ўзроўню заходняй цывілізацыі, тады мы памкнемся да нечага незвычайнага, што цяпер займае Еўропу. Гэта, аднак, не азначае, што тым нельга займацца і цяпер...

***Чэрвень 1995 г.***

# «Хто я такі, каб судзіць?», або Актуальныя Рабінзон Круза і Даніэль Дэфо



Андрэй ЦУНСКІ

Трыста пяць гадоў таму — у 1719-м — чытачы ўпершыню ўбачылі ў кнігарнях гэты раман. Яго дакладнай назвы амаль ніхто не можа запомніць — першае выданне мела загаловак «Жыццё, незвычайныя і дзіўныя прыгоды Рабінзона Круза, марака з Ёрка, які пражыў 28 гадоў у поўнай адзіноце на бязлюдным востраве ля берагоў Амерыкі каля вусцяў ракі Арынока, куды ён быў выкінуты караблекрушэннем, падчас якога ўвесь экіпаж карабля, акрамя яго, загінуў, з аповедам пра ягонае нечаканае вызваленне піратамі; напісаным ім самім».

Памятаеце арыгінальны пачатак? «Я нарадзіўся ў 1632 годзе ў горадзе Ёрк, у добрай сям'і, хоць і не з гэтай краіны, мой бацька быў іншаземцам з Брэмена, які спачатку пасяліўся ў Хале: ён атрымаў добры маёнтак за кошт гандлю, пасля жыў у Ёрку, дзе ён ажаніўся з маёй маці, чые сваякі зваліся Робінсан, вельмі добрая сям'я ў гэтай краіне, і ад яе мяне звалі Робінсан Крэйцнер; але дзякуючы звычайнаму скажэнню слоў у Англіі, мы цяпер называемся, нават мы называем сябе і пішам сваё імя Круза, і так мае таварышы заўсёды называлі мяне»...

Прататыпам галоўнага героя быў рэальны марак з Шатландыі Аляксандр Селькірк, які правёў на ненаселеным востраве ў Ціхім акіяне чатыры гады.

Кніга Даніэля Дэфо займела вялікі поспех у літаратурным свеце; яе часта называюць пачынальніцай жанру «рэалістычная літаратура». Да канца 1719 года «Рабінзон Круза» быў перавыдадзены чатыры разы, і да цяперашняга часу з'яўляецца адной з найбольш выдаваных кніг у гісторыі.

Цалкам кнігу таксама мала хто прачытаў. Але ўсё ж гэта адна з найважнейшых кніг у сусветнай гісторыі.

Звычайнаму чытачу-рамантыку без яе цяжка ўявіць сабе дзяцінства.

Для чытача больш глыбокага і дапытлівага гэтая кніга — важны элемент культурнага кода чалавецтва. Не менш важны, чым «Гамлет» ці «Адысея».

## Анкета для рамана

Пра пісьменнікаў варта нагадваць іх анкетныя дадзеныя. Анкета вялікіх кніг таксама бывае цікавая. Такім чынам:

1. Імя: «Жыццё, незвычайныя і дзіўныя прыгоды Рабінзона Круза, марака з Ёрка, які пражыў...».
2. Дата і год нараджэння: 25 красавіка 1719 г.
3. Месца нараджэння: Лондан, выдавецтва Вільяма Тэйлара «Патэр Ностэр».
4. Аўтар: Даніэль Дэфо (сапраўднае імя Daniel Foe), святар, камерсант, журналіст, палітык, разведчык.
5. Жанр: Тут трэба падрабязней...

## Тысяча і адзін жанр

Раман выхавання, алегорыя, прытча, раман-падарожжа, постапакаліптычная ўтопія, раман аб духоўным пошуку, але галоўнае — рабінзанада.

Раманам выхавання назваў гэтую кнігу Жан-Жак Русо. Менавіта ён сказаў калісьці, што дзіцяці для станаўлення асобы кнігі наогул не патрэбныя, ну хіба што «Рабінзон» — Чалавек, які супрацьстаіць нягодам, адзіноце, які здольны дзякуючы працы і мысленню не звар'яцець ад адзіноты.

Сам Дэфо называў раман алегорыяй. Шматпакутнае жыццё чалавека на бязлюдным востраве ён прадставіў як карціну чалавечага быцця. Перамены, якія адбываліся ва ўнутраным свеце героя, — як прытчу.



Партрэт Даніэля Дэфо. Нацыянальны марскі музей, Лондан




Першае лонданскае выданне рамана пра Рабінзона

Малодшых чытачоў і тых, каму дадзена радасць заставацца падлеткамі да сівых валасоў і не «іржавець» душой, вабіць тэма падарожжаў. Прозвішча бацькі героя «Крэйцнер» — «хрысціянін», было перароблена на англійскі лад: «Круза», ці, у «перакладзе» на беларускую — «Пахадовіч» або «Падарожжаў».

Веруючага чытача прыцягнуць доўгія і пры гэтым дзіўным чынам нянудныя развагі героя (і аўтара) аб рэлігіі і чалавечым лёсе.

Напэўна, піянер дзелавой журналістыкі Даніэль Дэфо быў бы вельмі здзіўлены тым, што галоўная кніга яго жыцця — «Рабінзон Круза» — за 305 гадоў існавання ператворыцца з «вытворчага рамана» ў «прыгодніцкую» аповесць, ды яшчэ і для дзяцей. Ніякіх дзяцей Дэфо сваімі чытачамі не бачыў, а пісаў выключна для дарослых — тлумачыў, як уладкаваны бізнэс вулічных прастытутак і эскортніц вышэйшага грамадства, апісваў практыку барацьбы з чумой, разбіраў кар'еру «салдата поспеху», складаў пералік «рабаванняў і смертазабойстваў», учыненых знакамітымі піратамі...

## Рабінзанада

Аднак сапраўдным наватарствам і ўкладам Дэфо ў сусветную культуру — не проста ў літаратуру! — стаў жанр рабінзанады. Жадаеце супрацьборствы чалавека з анархіяй стыхій? — у гэтым жанры ў аднаго Джэка Лондана ёсць некалькі такіх твораў. З'явіўся запыт на філасофію — да вашых паслугаў «Уладар мух» У. Голдынга. Захацелася навук і адукацыі — калі ласка, «Таямнічая выспа» Жуля Верна. Проста пацешыцца — калі ласка, фільм «Сіньёр Рабінзон» Сэрджыа Корбучы і Паола Віладжо. Трэба ідэалагічнай нагрузкі — колькі заўгодна, у савецкім «Рабінзоне» 1947 года, дзе яго іграе Павел Кадачнікаў (а Пятніцу — будучы заснавальнік «Таганкі» Юрый Любімаў). Паліткарэктнасці душа жадае — ёсць цэлы серыял, у галоўнай ролі П'ер Рышар.

Рабінзанады выдадзены на паперы, зняты на кінастужку, ішлі ў тэатрах, прапанаваны гледачу тэлебачаннем і інтэрнэтам...

## Рабінзон і рэлігія

Духоўна няспелыя людзі заўсёды спрабуюць пасварыць вернікаў і няверуючых. Дзіўным чынам раман Дэфо чыталі і чытаюць з радасцю і павагай прадстаўнікі ўсіх сусветных рэлігій. Аўтар-пратэстант, які за рэлігійны памфлет аднойчы патрапіў да ганебнага слупа (да падножжа якога, дарэчы, кідалі кветкі), ані не збянтэжыў ні католікаў, ні мусульман, ні іудзеяў. Яго герой не проста расце або старэе — ён становіцца мудрэйшым і памяркоўнейшым да людзей, шануе іх ужо таму, што навучыўся шанаваць іх грамадства.

Чым багацейшым становіцца яго чалавечы і духоўны вопыт, тым больш іранічна ставіцца ён да самога сябе. Бог патрэбен Рабінзону і як хрысціяніну, і як чалавеку свайго часу. Але перш за ўсё — каб зразумець, што сам ён — зусім не бог. Кожнае сур'ёзнае разважанне заканчваецца пытаннем «Хто я такі, каб судзіць?».

Пра раман дакладна сказана, што ён адлюстроўвае і дух пурытанства, і дух эпохі. Але значна важней тое, што ён не павучае. І таму застаўся да гэтага часу актуальным. Аднак для нас... малавядомым.

## Рабінзон у Расіі

Гэта не аб другой кнізе пра Рабінзона, урывак якой быў апублікаваны як «Рабінзон у Сібіры». Пераклад першага рамана ў Расіі з'явіўся ў 1762 годзе. Зроблены ён быў дваранінам, афіцэрам Якавам Трусавым. Яго праца была названа «Жыццё і прыгоды Рабінзона Круза, прыроднага англічаніна». Але — што наогул характэрна для той эпохі — раман аб «прыродным англічаніне» Трусаў пераклаў з французскага выдання. Першы пераклад з арыгінала ў 1843 годзе зрабіў П. А. Корсакаў.

Сучасны рукамоўны чытач мог азнаёміцца з раманам у перакладах Марыі Шышмаровай і ў версіі Карнея Чукоўскага — які выкінуў з кнігі ўсю «залішнюю» філасофію і, зразумела, рэлігію. Трэба адзначыць, што Карней Івановіч дзейнічаў нават не па ўказцы савецкіх уладаў, а па запаветах гуманіста Жан-Жака Русо, які лічыў, што раман можа стаць у такім выглядзе толькі карысней.

## Рабінзон у Беларусі

На шчасце, у нас ёсць магчымасць адшукаць, у тым ліку і ў інтэрнэце, розныя варыянты перакладаў, а па-англійску, хто ёй валодае, можна чытаць і ў арыгінале.

А ў 1976 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет выданне «Жыццё і дзіўныя прыгоды марахода Рабінзона Круза» па-беларуску ў перакладзе Алены Васілевіч. Гэты пераклад быў зроблены не з арыгіналу, а з вольнага перакладу Карнея Чукоўскага. Але — у выдатнай стылістыцы беларускай мовы:

«З самага ранняга дзяцінства я больш за ўсё на свеце любіў мора. Я зайздросціў кожнаму матросу, які выпраўляўся ў далёкае плаванне. Гадзінамі выстойваў я на марскім беразе і, не зводзячы вачэй, разглядаў караблі, якія праходзілі паблізу.

Маім бацькам гэта вельмі не падабалася. Бацька, стары хворы чалавек, хацеў, каб я быў важным чыноўнікам, служыў у каралеўскім судзе і атрымліваў вялікія грошы. А я марыў пра марскія падарожжы. Мне здавалася найвялікшым шчасцем вандраваць па морах і акіянах.

Бацька здагадваўся, што ў мяне ў галаве. Аднойчы ён паклікаў мяне да сябе і злосна сказаў:

— Я ведаю: ты хочаш уцячы з роднага дому. Гэта вар'яцтва. Ты павінен застацца. Калі ты застанешся, я заўсёды буду добрым бацькам, але не чакай дабра, калі ты ўсё-такі надумаешся ўцячы! — Голас у бацькі задрыжаў, і ён ціха дадаў: — Падумай пра сваю хворую маці... Яна не вытрымае разлукі з табою.




Беларускамоўнае выданне кнігі 1976 г. ў перакладзе Алены Васілевіч

У вачах у яго заблішчалі слёзы. Ён любіў мяне і хацеў мне дабра.

Мне зрабілася шкада старога, і я цвёрда вырашыў застацца ў бацькавым доме і больш нават не думаць пра марскія падарожжы. Але — дарэмна! — мінула некалькі дзён, і ад маіх намераў нічога не засталося. Мяне зноў пацягнула да марскіх берагоў. Мне зноў пачалі сніцца мачты, хвалі, ветразі, чайкі, невядомыя краіны, агні маякоў.

Праз два-тры тыдні пасля гаворкі з бацькам я ўсё ж вырашыў уцячы. Улучыўшы момант, калі маці была вясёлая і спакойная, я падышоў да яе і пачціва сказаў:

— Мне ўжо васямнаццаць гадоў, і ў гэтым узросце позна ўжо вучыцца судовай справе. І калі б я нават і паступіў куды-небудзь на службу, праз некалькі дзён я ўсё роўна збег бы ў далёкія краіны...».

Так пачынаецца беларускамоўная кніга Дэфо, пачынаецца расповед Рабінзона пра тое, як ён ляпіў першыя гліняныя гаршкі. Нам сапраўды шкада яго ў шматлікіх няўдалых пачынаннях. Трэба прызнацца, што і да аўтара шмат прэтэнзій: Дэфо відавочна не мае паняцця аб тым, як робяць (шыюць) лодкі, як вырошчваюць рыс, палююць на коз, не ведае, дзе расце вінаград, які клімат каля вусця ракі Арынока... Але мы ўсё даруем і яму, і ягонаму герою. У рамкі створанай Дэфо ўмоўнасці — якую дакладней будзе назваць літаратурнай формай — кожны міжволі змяшчае сваю ўласную асобу.

Гэта, мабыць, самае вялікае дасягненне Дэфо як мастака. Да яго выказана нямала прэтэнзій. Сярод яго крытыкаў Свіфт, Дзікенс ды мноства знакамітых мысляроў. Мы разам з Гуліверам часам з тугою глядзім на людзей. Але ў цяжкую хвіліну нам дапамагае не Гулівер — а Рабінзон. Гэта ён прымушае нас працаваць. Нагадвае, што мы ўсё ж не багі. Ён падказвае, як нам знайсці сябе — і потым «жыць на сваіх выспах спакойнымі і задаволенымі».

За тое мы і ўдзячныя яму і Даніэлю Дэфо.

Вось ужо чацвёртае стагоддзе...

# Пулітцэраўская прэмія

Пулітцэраўская прэмія, якая лічыцца адной з самых вядомых пасля Нобелеўскай і Букераўскай, уручаецца штогод больш чым у 20 намінацыях, 7 з якіх — літаратурныя.

Прэмію заснаваў Джозэф Пулітцэр, венгерска-амерыканскі журналіст і выдавец газеты, які пасля сваёй смерці ў 1911 годзе пакінуў грошы Калумбійскаму ўніверсітэту.

Названыя новыя пераможцы ў літаратурных намінацыях.

Проза — Джэйн Эн Філіпс за раман «Night Watch». Гэта кніга аб псіхічным партрэце амерыканскага грамадства пасля Грамадзянскай вайны. Раман Джэйн Эн Філіпс распавядае гісторыю, якая адбываецца адразу пасля Грамадзянскай вайны ў вар'яцкім доме ў Заходняй Вірджыніі. Аўтарка разглядае «Начны дазор» як трэцюю частку сваёй раманнай трылогіі, прысвечанай вайне, пасля кніг пра В'етнам і Карэю. Яна пачала працаваць над кнігай восем гадоў таму, але цяпер тэма грамадзянскай вайны стала асабліва трывожнай і актуальнай. «Я спадзяюся, што людзі прачытаюць раман, адкінуць палітыку ў бок і адчуюць, што было ў той час», — мяркуе Джэйн Эн Філіпс.




Паэзія — Брэндон Сом за кнігу «Tripas: Poems». Паэта Брэндона Сома журы ўзнагародзіла за напісанне «зборніка, які глыбока закранае складанасці мексіканскай і кітайскай спадчыны».

Драматургія — Эбані Бут за кнігу «Primary Trust». Тэмы гэтага твора пад назвай «Першасны давер» — жыццё, каханне, сяброўства і лёс 38-гадовага гандляра кнігамі Кэнета. Журы назвала п'есу «проста і элегантна складзенай гісторыяй, якая паказвае, як маленькія добрыя справы могуць памяняць жыццё чалавека».

Гістарычны нон-фікшн — Жаклін Джонс за тэкст «No Right to an Honest Living: The Struggles of Boston's Black Workers in the Civil War Era». Даследаванне амерыканскага сацыяльнага гісторыка Жаклін Джонс «Без права на сумленнае жыццё: барацьба чарнаскурых рабочых Бостана ў эпоху Грамадзянскай вайны» прысвечана праблемам спадчыны рабства і ўплыву яго адмены на чарнаскурае насельніцтва Бостана падчас і пасля Грамадзянскай вайны ў ЗША. У кнізе апісваецца абыходжанне з чарнаскурымі людзьмі ў Бостане ў той час, калі горад быў цэнтрам актыўнасці супраць рабства.

Біяграфія — Джонатан Эйг за кнігу «King: a Life», якая расказвае пра лідара руху за грамадзянскія правы ў ЗША Марціна Лютэра Кінга-малодшага. 700-старонкавы том, прысвечаны этапам жыцця самага вядомага амерыканскага праваабаронцы, выдатна дакументаваны: ён змяшчае інфармацыю з нядаўна рассакрэчаных файлаў ФБР.

А таксама Ільён Ву «Master Slave Husband Wife: An Epic Journey from Slavery to Freedom». Пісьменніца Ільён Ву напісала мікрагістарычнае даследаванне пра незвычайны лёс шлюбнай пары рабоў, якія дзякуючы сваёй смеласці, рашучасці і вынаходлівасці ў 1848 годзе ўцяклі з Паўднёвай Джорджыі.

Мемуары і аўтабіяграфіі — Крысціна Рывэра за кнігу «Liliana's Invincible Summer: a Sister's Search for Justice» («Непераможнае лета Ліліяны: Сястра у пошуках справядлівасці»), у якой аўтарка апісвае ўласнае журналіцкае расследаванне забойства сваёй 20-гадовай сястры. У выданні спалучаюцца мемуары, феміністкія журналісцкія расследаванні і паэтычная біяграфія, аб'яднаныя рашучасцю, народжанай стратай.

Нон-фікшн — Натан Трал за «A Day in the Life of Abed Salama: Anatomy of a Jerusalem Tragedy» («Адзін дзень з жыцця Абеда Салама: Анатомія Іерусалімскай трагедыі»). У кнізе Натана Трала пытанні акупацыі Ізраілем заходняга берага ракі Іардан раскрываюцца праз гісторыю палестынскага араба, чый пяцігадовы сын раптам гіне з-за наступстваў збройнага канфлікту.

Уладальнікі прэміі акрамя медаля атрымліваюць грашовы прыз у памеры 15 000 даляраў ЗША.

«The New York Times» атрымала тры ўзнагароды за рэпартажныя расследаванні, міжнародныя рэпартажы і артыкулы. Часопіс «New Yorker» атрымаў дзве Пулітцэраўскія прэміі. Як паведамлялася, украінскія фатографы Яўген Малалітка і Мсціслаў Чарноў атрымалі Пулітцэраўскую прэмію 2023 года за фатаграфіі з Марыупаля. Узнагароду атрымала і відэапрадзюсер Васіліна Сцепаненка.



Фота book-ye.com.ua

# Прэмія імя Германа Гесэ

Украінская пісьменніца Сафія Андруховіч і перакладчыкі яе кнігі «Амадока» на нямецкую мову Аляксандр Кратахвіл і Марыя Вайзэнбёк атрымаюць Міжнародную прэмію імя Германа Гесэ. Яе ўручэнне адбудзецца 2 ліпеня 2024 года ў дзень нараджэння Германа Гесэ (1877—1962), нямецкага пісьменніка і мастака, лаўрэата Нобелеўскай прэміі.

Прэмія прысуджаецца кожныя два гады Фондам Германа Гесэ. Гэта азначае «літаратурнае дасягненне міжнароднага ўзроўню разам з яго перакладам».

Узнагарода складае 20 тысяч еўра.

Фонд Германа Гесэ знаходзіцца на радзіме пісьменніка — у Кальвэ (Нямеччына).

Сафія Андруховіч адзначана за два нямецкія выданні: «Die Geschichte von Romana» («Гісторыя Раманы») і «Die Geschichte von Uljana» («Гісторыя Ульяны»). Яны ўваходзяць у раман «Амадока». Трэцяя частка — «Die Geschichte der Sofia» («Гісторыя Сафіі») — выйдзе ў кастрычніку 2024 года.

Журы адзначыла, што ўкраінская пісьменніца змагла «разнастайна і ўражліва намаляваць шырокую панараму Украіны ХХ стагоддзя», а таксама падкрэсліла «вынаходлівасць і амбітнасць» Сафіі Андруховіч. Журы адзначыла, што кніга распавядае пра «траўматычныя этапы гісторыі, якія сфарміравалі калектыўную памяць украінцаў: вайна на ўсходзе Украіны, Халакост і сталінізм».

Перакладчыкі адзначаныя за майстэрства, з якім яны аднавілі «розныя моўныя рэгістры "Амадокі"». «Яны перадавалі гістарычныя галасы і танальнасці 100-гадовай даўніны, разнастайныя наратыўныя структуры, выпадковыя або ненадзейныя, простыя або вытанчаныя, скаваныя гістарычнымі жахамі або абцяжараныя пошукам уласнага шчасця», — растлумачыла журы.

Раман «Амадока» ахоплівае тры перыяды гісторыі Украіны: першыя дзесяцігоддзі ХХ стагоддзя, Халакост у заходніх рэгіёнах краіны падчас Другой сусветнай вайны і вайну сённяшнюю. Паводле слоў Сафіі Андруховіч, гэта «суб'ектыўны зляпак украінскай гісторыі ХХ стагоддзя».

У 2023 годзе Сафія Андруховіч стала лаўрэаткай прэміі імя Шолам-Алейхема за гэты ж раман «Амадока». Яна мае таксама літаратурную прэмію Вышаградскага ўсходняга партнёрства (VEaPLA) (за раман «Фелікс Аўстрыя»).

# Кніга Ангелы Меркель

Мемуары былой канцлеркі Нямеччыны Ангелы Меркель будуць апублікаваныя ў лістападзе гэтага года.




Кнігу пад назвай «Freiheit» («Свабода») аб'ёмам амаль 700 старонак была канцлерка напісала ў суаўтарстве са сваёй шматгадовай памочніцай і дарадчыцай Беатай Бауман. «Для мяне свабода — гэта не спыняцца вучыцца, не стаяць на месцы, а мець магчымасць ісці далей, нават пакінуўшы палітыку», — напісала Меркель.

Мемуары будуць даступныя больш чым у 30 краінах, але пакуль не ўдакладняецца, дзе. На сайце выдавецтва ўжо можна папярэдне заказаць папяровую кнігу за 42 еўра, электронную — за 30 еўра.

Ангела Меркель стала першай жанчынай на пасадзе федэральнага канцлера Нямеччыны, якую яна займала з 2005 па 2021 год. За час знаходжання на пасадзе яна лічылася адным з самых уплывовых палітыкаў Еўропы і свету.

# «Гары Потэр» за... паўмільёна даляраў

Першае выданне кнігі «Гары Потэр і філасофскі камень» у цвёрдай вокладцы — першай у серыі кніг Джоан Роўлінг пра маладога чараўніка — было прададзена на аўкцыёне за рэкордны кошт. За кнігу, упершыню апублікаваную ў 1997 годзе, аддалі 471 000 даляраў ЗША, што стала самай высокай цаной, калі-небудзь заплачанай за любую кнігу пра Гары Потэра.

«Гэта не толькі самая дарагая кніга пра Гары Потэра, калі-небудзь прададзеная; гэта таксама самы дарагі камерцыйна апублікаваны твор мастацтва ХХ стагоддзя з калі-небудзь прададзеных», — адзначыў выканаўчы віцэ-прэзідэнт «Heritage Auctions» Джо Мадалена.

Пасля таго, як праца Роўлінг была адхілена тузінам выдаўцоў, «Bloomsbury» надрукавала толькі 500 асобнікаў (!) «Філасофскага каменя» ў цвёрдай вокладцы, большасць з якіх прызначалася для публічных бібліятэк.

Таргі ў прамым эфіры за першае выданне першага рамана серыі пачыналіся з 75 000 даляраў. Доўгага раўнд прывёў да росту коштаў. Калі была абвешчана канчатковая цана продажу, аўкцыённая зала выбухнула апладысментамі.

«Гары Потэр і філасофскі камень» два дзесяцігоддзі таму з'явіўся на вялікім экране і прадэманстраваў сілу спалучэння літаратуры і кіно. «Гэтыя кнігі сталі ўспрымацца сур'ёзна з-за фільмаў, заснаваных на іх», — адзначыла Джо Мадалена.

Раман пра Гары Потэра стаў не адзінай кнігай, прададзенай за рэкордную суму. Трылогія-фэнтэзі Дж. Р. Р. Толкіна «Уладар пярсцёнкаў», якая выдавалася ў сярэдзіне 1950 гадоў, таксама пабіла свой папярэдні аўкцыённы рэкорд, прадаўшыся за 103 125 даляраў.

# Новая экранізацыя па кнігах Толкіна

У свеце кінафэнтэзі апошнім часам нямала цікавых навін. Адна з такіх — адраджэнне студыяй «Warner Bros. Discovery» літаратурнага свету Міжзем'я Дж. Р. Р. Толкіна (1892—1973). Таго, які мы ведаем па рэжысёрскіх трылогіях Пітэра Джэксана «Уладар пярсцёнкаў» і «Хобіт».



Менавіта Джэксан і стане прадзюсарам новага праекту. Дапамагаць яму будуць Фрэн Уолш і Філіпа Баенс, якія раней працавалі над сцэнарамі «Уладара пярсцёкаў». Сайт «The Hollywood Reporter» удакладняе, што запланавана некалькі карцін па свеце Міжзем'я. І ўжо ёсць сякія-такія звесткі аб першай. Прысвечана яна будзе Голуму, якога зноў сыграе Эндзі Серкіс. У дадатак ён жа будзе пастаноўшчыкам фільма. Сам Серкіс выказвае поўнае захапленне магчымасцю зноў папрацаваць з Джэксанам і іншымі калегамі па «Уладару пярсцёнкаў».

Ёсць у фільма і назва: «Уладар пярсцёнкаў: Паляванне на Голума». Адзначым, што фільм «Паляванне на Голума» ўжо існуе, — гэта фанацкая саракахвілінная стужка 2009 года.

Анансуецца, што ўсе фільмы будуць прысвечаны тым ці іншым эпізодам з кніг англійскага пісьменніка Дж. Р. Р. Толкіна, якія не знайшлі адлюстравання на экране.

«Уладар пярсцёнкаў» з'яўляецца адной з самых вядомых і папулярных кніг ХХ стагоддзя. Ён перакладзены на 38 моў свету, у тым ліку і на беларускую. Гэта кніга зрабіла велізарны ўплыў на літаратуру ў жанры фэнтэзі, на настольныя і камп'ютарныя гульні, на кінематограф і наогул на сусветную культуру.

Мэтай Толкіна было стварэнне англійскага эпасу. (А яшчэ сцвярджаюць, што ён напачатку збіраўся стварыць новую эльфійскую мову і прыдумаў невялікую гісторыю для яе. У выніку ён паступова і прыдумаў цэлы свет і напісаў аб ім свой раман.) Пісьменнік быў оксфардскім філолагам, добра знаёмым з сярэдневяковымі міфамі Паўночнай Еўропы, такімі, як «Сага аб Хервер», «Сага аб Вельсунгах», «Беавульф», з іншымі старажытнаскандынаўскімі, старажытнаанглійскімі і сярэднявяковымі англійскімі тэкстамі. «Уладар пярсцёнкаў» быў натхнёны і іншымі літаратурнымі крыніцамі, напрыклад, легендамі «Артураўская цыкла» і карэла-фінскім эпасам «Калевала». На думку Толкіна, англасаксам вострa не хапала эпасу падобных маштабаў, артураўскі міф ён лічыў падробкай з-за яго відавочных кельцкіх, а не англасаксонскіх каранёў.

Так у палове 1930-х Дж. Р. Р. Толкін і пачаў сваю працу, а ў 1937 годзе апублікаваў кнігу «Хобіт, або Туды і Назад».

Літаратурная Беларусь
Адрас электроннай пошты: litaraturnaja.bielarus@gmail.com
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.